ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!



# КООПЭРАЦЫЯ БССР

ДВУХТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ
БЕЛКООПСАЮЗУ і БЕЛСАМПРАМСАЮЗУ



КРАСАВІК

№ 1-2




МЕНСК — 1930

## ЗЬМЕСТ



Галоўлітбел № 1819 Заказ № 2019—1500 экз. Друк. „Палесдрук", Гомель

# Няхай жыве 1-ае мая--сьвята працоўных!

**В. Аксюта**

## Патрэбны ўдарныя тэмпы

Веснавая пасеўная кампанія сёлета мае асаблівае палітычнае значэньне. Ад таго, як мы пасьпяхова выканаем задачы веснавое сяўбы, у значнай меры залежыць паскарэньне тэмпаў індустрыялізацыі краіны і замацаваньня дасягнутых аграмадных посьпехаў у галіне масавае колектывізацыі сельскае гаспадаркі.

Бальшавіцкая сяўба зьяўляецца праверкаю прыстасаванасьці нашага партыйнага, савецкага і коопэрацыйнага апарату да працы ў новых умовах, на новым этапе соцыялістычнага будаўніцтва савецкае краіны. Вось таму ўвага ўсіх рабочых, батрацка-бядняцкіх і серадняцкіх мас сялянства павінна быць завострана на лепшым, поўным і хуткім выкананьні баявых задач бальшавіцкае сяўбы. Кулацтва, якое ліквідуецца, як кляса, на грунце суцэльнае колектывізацыі дае і будзе даваць шалёныя супраціўленьні выкананьню ў свой час задач веснавое пасеўнай кампаніі.

Гэтаму супраціўленьню павінна даць адпор бальшавіцкая організаванасьць і энэргія шматмільённых працоўных мас.

Спажывецкая коопэрацыя, якая грае вялікую ролю ў справе організацыі забесьпячэньня насельніцтва прамтаварамі і прадуктамі абслугоўваньня культурна-бытавых патрэб, разгортваньня грамадзкага харчаваньня, павінна даць максымальную дапамогу пасьпяховаму правядзеньню веснавое сяўбы, шляхам мобілізацыі ўсіх сваіх сіл і сродкаў вакол баявых задач веснавое сяўбы.

Мы павінны разгарнуць такімі тэмпамі сваю працу па правядзеньню веснавое пасеўнае кампаніі, каб гэтая праца гарантавала сваячасовае і бесьперабойнае забесьпячэньне насельніцтва, якое занята на палявых працах, усім неабходным, у прыватнасьці, у дачыненьні забесьпячэньня нафтаю для трактараў тых раёнаў, дзе яны падрыхтаваны да працы. Трэба неадкладна мобілізаваць усю магчымую тару ў насельніцтва, асабліва ў кулакоў, каб забясьпечыць двухтыднёвыя запасы нафты на ўвесь час правядзеньня веснавое сяўбы.

Пытаньні сваячасовага забесьпячэньня таварамі і сельска-гаспадарчымі продуктамі насельніцтва, якое працуе на палёх, маюць вялікае значэньне.

Патрэбны тэрміновыя і рашучыя меры з боку коопэрацыйных організацый, каб хутка выканаць справу забесьпячэньня рабочых саўгасаў і колгасаў ня толькі за кошт цэнтральных фондаў, але і за кошт мобілізацыі мясцовых рэсурсаў.

Асабліва важным мерапрыемствам па лініі спажывецкае коопэрацыі зьяўляецца разгортваньне будаўніцтва ўласных сельска - гаспадарчых прадпрыемстваў, як малочных фэрмаў, агародаў, адкормных опэрацый і г. д.

Гэта дае ёй магчымасьць значна пашырыць базы харчовых рэсурсаў і тым самым выканаць забесьпячэньне рабочых і ўзьняць рэальны ўзровень зарплаты. Вось таму выкананьне пляну разгортваньня сельска - гаспадарчых прадпрыемстваў зьяўляецца для спажывецкае коопэрацыі баявою задачаю.

Кніжка, кіно, радыё—усё павінна быць пастаўлена на службу веснавое сяўбы, усё павінна быць прысьвячона растлумачэньню баявых заданьняў веснавое пасеўнае кампаніі перад шырокімі працоўнымі масамі сялянства. У гэтай справе зроблена нямала. Неабходна мобілізаваць усе культурныя сілы сыстэмы спажыў-



Колгасьнікі развозяць гной.

коопэрацыі для разгортваньня гэтае работы ударнымі тэмпамі.

Неабходна ўжыць самыя энэргічныя меры па мобілізацыі насеньня на мясцох у сялян і разгарнуць загатоўкі насеннае бульбы.

Пералічанымі пытаньнямі не абмяжоўваецца работа спажывецкай коопэрацыі ў веснавой сельска-гаспадарчай кампаніі. У гэту кампанію як ніколі павінна быць у максымальнай ступені разгорнута культурна-асьветная і бытавая праца спажывецкай коопэрацыі.

Ад таго, як спажывецкая коопэрацыя выканае ўскладзеныя на яе задачы па веснавой сяўбе, будуць залежаць тэмпы социялістычнага будаўніцтва.

Спажывецкая коопэрацыя ні ў якім разе не павінна быць тормазам ў социялістычным будаўніцтве.

Я. Валожын

# Спажывецкая коопэрацыя дрэнна падрыхтавалася да веснавое сяўбы

Падрыхтоўчая праца да веснавое сяўбы ў спажывецкай коопэрацыі пачалася позна. Толькі 8-га сакавіка на пасяджэньні праўленьня БКС упяршыню разглядалася гэтае пытаньне. Гэта, бясспрэчна, адмоўна адбілася на ўсёй падрыхтоўчай працы. Паглядзім, як яна праведзена па наступных галінах.

амаль і не пашла. Да гэтага часу не заключана ўмова паміж Белкоопсаюзам і Белколгасцэнтрам. Прычынаю гэтаму тое, што не дагаварыліся, хто павінен эксплёатаваць сталоўкі ў колгасах. Цяжкая справа. Трэба, каб адпаведныя органы зацікавіліся і пасабілі вырашыць гэтае пытаньне. Замест цэлавога вырашэньня і дапамог



Рыхтуюць насеньне

## Грамадзкае харчаваньне

Агульны плян абслугоўваньня грамадзкім харчаваньнем саўгасаў і колгасаў вызначаецца ў організацыі 125 сталовак, 150 ачагоў і 40 пекарань. Гэты плян да акруг даведзены надзвычайна позна. Толькі 10 га сакавіка ён быў разасланы на акругі, ня кажучы ўжо пра тое, што да нізоўкі ён дайшоў з яшчэ большым спазьненьнем. Сяўба па некаторых акругах пачалася, а організацыя грамадзкага харчаваньня далей плянаў хутчэйшаму правядзеньню пляну ў жыцьцё мы бачым злачыннае дзяляцтва. Справа з інвэнтаром для сталовак таксама ў дрэнным становішчы. Ужо атрымана для сталовак тармасоў—45, катлоў эмаляваных —4000 кг., мясарубак—35, кіпяцільнікаў—400 і эмаляванае пасуды—3000 штук. Бясспрэчна, гэта колькасьць інвэнтару далёка не задавальняе патрэбы ў інвэнтары сталовак.

Інформацыі, якія прыходзяць з месц аб падрыхтоўцы організацый да сяўбы

гаворацъ, што справа грамадзкага харчаваньня толькі яшчэ плянуецца і практычнага амаль нічога ня зроблена.

Плян організацыі грамадзкага харчаваньня да пачатку сяўбы сарваны.

### Нарыхтоўка насеньня і бульбы

Тэмп нарыхтоўкі насеньня за апошні месяц зусім зьменшыўся. Становішча працы па выкананьню пляну нарыхтовак характарызуецца наступнымі лічбамі на 10-га красавіка гэтага году: выканана заданьня па віцы—49,6 проц., канюшыне—52,2 проц., цімафейцы—19,7 проц., сэрадэлі—31,5 проц., лубіну—3,6 проц., канопляях—40,8 проц. Асабліва дрэнна ідзе нарыхтоўка лубіну, цімафейкі і сэрадэлі.

Недапушчальна цягнецца ў хвасьце па нарыхтоўцы насеньня па ўсіх галінах Мазырская акруга.

Яшчэ горш справа з нарыхтоўкаю бульбы. Дадзенае заданьне спажывецкай коопэрацыі Беларусі ў 32.820 тон выканана на 25 сакавіка толькі ў колькасьці 884 тоны, што складае 2,7 проц. выкананьня агульнага заданьня. Асноўная прычына зрыву пляну па нарыхтоўцы насеньня—гэта тое, што ня гледзячы на сваячасовае давядзеньне плянаў нарыхтовак да акруг, апошнія з халадком аднесьліся да гэтае справы, даказваючы, што нібыццам у зьвязку з колектывізацыяй гэтаю працаю мы не павінны займацца.

Добры час нарыхтовак прапушчаны. Выканаць цяпер усё, бясспрэчна, нельга. Дрэнна адбілася на нарыхтоўках і тое, што некаторыя РВК і нават АВК забаранялі нарыхтоўваць насеньне спажывецкай коопэрацыі (Віцебск, Полацак) і, патрэцяе, трэба прызнаць, што былі вызначаны занадта вялікія пляны.

### Гаспадарчае абслугоўваньне

Справа з гаспадарчым абслугоўваньнем саўгасаў і колгасаў і наогул сяўбы больш-менш знаходзіцца ў здавальняючым стане. За апошні час атрымана 4 вагоны рэзэрвуарнага жалеза, і перададзены заказы заводам для выпрацоўкі бакаў для нафты.

Ужо маем адзін бак на 5900 вядзёр для Койданаўскай машынна-трактарнай станцыі, а таксама для другіх пунктаў па абслугоўваньню трактарных колён. Мы маем 9 бакаў у 11620 вядзёр. Атрыманы інструманты сьлясарныя, кавальскія і сталярныя на суму 6000 рублёў, якія перададзены Белсельгасснабу. Яму ж перададзена 10 вагонаў жалеза для стрэх. Тавары для забесьпячэньня рабочых саўгасаў і колгасьнікаў спэцвопраткай пачынаюць паступаць. У якой-жа ступені заяўкі колгасцэнтру і саўгасцэнтру выкананы, Белкоопсаюз ня ведае, бо адсутнічае вучот паступленьня спэцвопраткі.

### Культурна-бытавое абслугоўваньне

У галіне культурна-бытавога абслугоўваньня справа пастаўлена дрэнна. Праца, якая праводзіцца, у асноўным зьведзена да прасоўваньня кнігі. Накіравана літаратуры ў спажывецкія таварыствы на суму 179.575 рублёў. Таксама разаслана 120.000 экзэмпляраў лёзунгаў, якія прысьвячоны да пасеўнай кампаніі.

У культаддзеле БКС адсутнічаюць зьвесткі аб працы, якая праводзіцца організацыямі на мясцох. Організацыя дзіцячых устаноў згодна плянам з году ў год ня выконваецца, і не выкарыстоўваюцца сродкі, якія вызначаюцца для гэтае мэты. Становішча працы ў гэтым годзе таксама ставіць пад рэальную пагрозу невыкананьне вызначаных плянаў адчыненьня дзіцячых устаноў.

Масава-асьветная праца разгорнута зусім слаба. Зьвесткі пра гэтае адсутнічаюць.

Як вынік, можна канстатаваць, што спажывецкая коопэрацыя дрэнна падрыхтавалася да сяўбы і што ёй неабходна апошнія дні скарыстаць з максымальным напружаньнем сіл і энэргіі за разгортваньне працы па асноўных і важнейшых пытаньнях сёньняшняга дню, якія вырашаюць посьпех бальшавіцкае сяўбы.

**Кузьміцкі**

# Пра малочна-агародныя гаспадаркі

Агульная плошча прыгарадных гаспадарак на 1 красавіка г. г. складала 5569 га, пры чым з гэтае плошчы вызначана пад агароды 747 га і знаходзіцца пад садам 130 га.

Нам цікава прааналізаваць, як ЦРК выканаў заданьне па засеву агароду. Гэтае заданьне зусім ня выканана Віцебскім ЦРК і мала выканана Магілеўскім, Бабруйскім і Аршанскім ЦРК.

А таму мы павінны, як задачу сёньняшняга дню, катэгорычна патрабаваць ад усіх ЦРК поўнага засеву агароднае плошчы як з колькаснага, так і з якаснага боку, бо такія адносіны да галоўнае крыніцы грамадзкага забесьпячэньня, якія мы маем з боку гэтых ЦРК, нікуды ня варты.

Белрабсэкцыя устанавіла наступныя контрольныя лічбы па прыгарадных ЦРК на 1930 год.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Па Менскаму ЦРК | агароднае | плошчы | 250 | га., | Малочн. жывёлы | 1000 |
| „ Віцебскаму | „ | „ | 200 | „ | „ „ | 1000 |
| „ Гомельскаму | „ | „ | 200 | „ | „ „ | 1000 |
| „ Барысаўскаму | „ | „ | 80 | „ | „ „ | 500 |
| „ Бабруйскаму | „ | „ | 100 | „ | „ „ | 1000 |
| „ Рэчыцкаму | „ | „ | 70 | „ | „ „ | 100 |

Аршанскаму, Магілёўскаму і Полацкаму па 100 га агароднае плошчы і па 100 штук малочнае жывёлы.

Задача ўсіх ЦРК галоўным чынам у тым, каб усе сродкі, якія прызначаны для прыгарадных гаспадарак, былі цалкам скарыстаны па свайму прызначэньню, і што ні ў якім разе гэтыя сродкі ня могуць ісьці на другія мэты і перавышэньне контрольных лічбаў капіталаўкладаньняў ня можа быць дапушчана. Павялічэньне памераў гаспадарак можа ісьці выключна за лік патаненьня будаўніцтва, падвышэньня якасьці жывёлы, рацыянальнага скарыстаньня старых пабудоў і іншае.

Для організацыі і кіраўніцтва гаспадаркамі і забесьпячэньня іх сродкамі вытворчасьці трэба неадкладна стварыць аддзелы сельска-гаспадарчых прадпрыёмстваў, а ў ЦРК таксама аналёгічныя аддзелы альбо часткі. Час ужо прыняць рашучыя меры да забесьпячэньня гаспадарак неабходнымі кадрамі.

Трэба дабіцца плянавае працы гаспадарак, для чаго неадкладна складсьці організацыйныя пляны гаспадарак, пры чым асноўным напрамкам гаспадаркі павінна зьяўляцца малочна-агародная гаспадарка, як больш рацыянальны тып прыгарадных гаспадарак. Малочная жывёла павінна быць забясьпечана за лік уласнай кармавой базы, шляхам устанаўленьня адпаведнага севазвароту, мэханізацыі транспарту і апрацоўкі, сіласаваньня кармоў, выхаваньня маладняка ў іншых гаспадарках.

Комплектаваньне павінна вытварацца выключна за кошт высока продукцыйнай жывёлы. ЦРК павінны ведаць, што пры наліччы высока-продукцыйнай жывёлы можна дабіцца выкананьня рабочай коопэрацыяй задач па хутчэйшаму пашырэньню забесьпячэньня малаком рабочага насельніцтва.

Час падумаць пра максымальную мэханізацыю ўсіх працэсаў, якія зьвязаны з кармленьнем, доглядам і ўтрыманьнем жывёлы ў мэтах скарачэньня ўкладаньняў у жыльлёвае будаўніцтва і выдаткаў па ўтрыманьню пэрсаналу.

А. Дзюдзін

# Спажывецкая коопэрацыя і пытаньні гародніны

Буйны рост колектывізацыі сельскае гаспадаркі і рэконструкцыя гаспадаркі высоўваюць перад спажывецкай коопэрацыяй важнейшую задачу —організацыю загатоўкі продуктаў харчаваньня.

У сувязі з важнасьцю організацыі нормальнага забесьпячэньня продуктамі харчаваньня пытаньню максымальнага павялічэньня ў харчаваньні садовіны і гародніны сыстэма спажывецкае коопэрацыі ў гэтым годзе ўдзяляе выключную ўвагу.

Выходзячы з гадавой нормы спажываньня бульбы і гародніны на адну душу ў сярэднім у 200 кілёграмаў, патрэба толькі гарадзкога насельніцтва вызначаецца па бульбе ў 2.500.000 тон і па гародніне—у 1.700.000 тон па Савецкаму Саюзу.

Якія-ж крыніцы, каб задаволіць гэтую патрэбу, мае спажывецкая коопэрацыя?

Раней за ўсё—контрактацыя. Спажывецкая коопэрацыя па СССР, па папярэдніх няпоўных вестках, контрактуе бульбы 165.000 га і іншае гародніны 70.000 га, што павінна даць 900.000 тон бульбы і да 850.000 тон гародніны. Апрача таго, уласныя прыгарадныя гаспадаркі спажывецкае коопэрацыі на плошчы ў 40.000 га павінны даць да 350.000 тон гародніны. Усё гэта разам будзе пакрываць агульную патрэбу па бульбе на 40% і па гародніне на—69%.

Гэта гаворыць пра тое, што плян контрактацыі павінен быць значна пашыраны. Мы лічым, што контрактацыя і ўласныя агароды спажыўсыстэмы павінны разам задаволіць ня менш 75% плянавае патрэбы ў гародніне асноўных прамысловых пунктаў. Астатнія 25 проц. мы мяркуем сабраць шляхам звычайных загатовак.

Надаючы аграмаджанаму сэктару сельскае гаспадаркі гэтыя патрабаваньні, сыстэма спажывецкае коопэрацыі ў сёлетнюю веснавую пасеўную кампанію павінна разгарнуць вялікую працу. Раней за ўсё мы павінны перамагчы цяжкасьці грашовага парадку.

Мобілізацыя ўнутрыкоопэрацыйных сродкаў павінна быць значна павялічана. Укладваючы аграмадныя сумы ў гэтую справу, організаваны спажывец у гэтым годзе павінен у сваю чаргу патрабаваць ад сыстэмы с.-г. коопэрацыі і колгаснай ня толькі своечасовага выкананьня ўзятых на сябе абавязкаў па тэрмінах і колькасьці, але і, галоўным чынам, у дачыненьні якасьці продукцыі. Агромінімум, паказаны ў дагаворах, павінен быць бясспрэчна, зьдзейсьнены на справе.

Цяпер неабходна праверыць падрыхтаванасьць вытворчых організацый да выкананьня ўзятых імі на сябе абавязкаў. Уласныя прыгарадныя гаспадаркі спажывецкае коопэрацыі павінны зараз разгортваць сваю працу ўдарнымі тэмпамі. Саюзы спажывецкае коопэрацыі і самі коопэратывы павінны дамагчыся поўнага задавальненьня патрэбы ў насеньні для ўласных прыгарадных гаспадарак. Уся савецкая грамадзкасьць і ў першую чаргу шырокія пласты коопэраванага рабочага спажыўца павінны ў веснавую пасеўную кампанію ўсімі сіламі і сродкамі прыйсьці на дапамогу колгасам. Кожны лішні пуд гародніны гарантуе рабочаму спажыўцу бесьперабойнасьць ў забесьпячэньні. Садовіна і гародніна павінны ў гэтым годзе ў значнай меры перакрыць недахопы па асобных продуктах харчаваньня. У гэтым аснова пытаньня.

# Кааперацыя на 1-й ўсебеларускай С. Г. выстаўцы

*Л. Таўкач*

## Першая ўсебеларуская выстаўка сельскае гаспадаркі і прамысловасьці.

Улетку 1930 г., згодна пастановы ўраду БССР, у г. Менску адчыняецца 1-ая ўсебеларуская выстаўка сельскае гаспадаркі і прамысловасьці. Мы арганізуем выстаўку ў час шырокага разгорнутага процэсу соцыялістычнага будаўніцтва, пагэтаму дзьве галоўныя ідэі пакладзены ў аснову організацыі выстаўкі.

Першая—гэта паказаць ролю індустрыялізацыі ў перабудове сельскае гаспадаркі і паказаць процэс пераходу ад разрозьненай, адсталай індывідуальнай гаспадаркі да буйнага землякарыстаньня.

У зьвязку з усім гэтым выстаўка павінна быць школай індустрыялізацыі і колектывізацыі, якая-б магла дапамагчы самым шырокім рабочым і бядняцка-серадняцкім масам насельніцтва пасьпяхова выканаць пяцігадовы плян соцыялістычнага будаўніцтва народнае гаспадаркі.

Ва ўмовах Беларусі, як прымежнай рэспублікі саветаў, наша выстаўка будзе таксама ілюстраваць барацьбу рабочых і бядняцка-серадняцкіх мас сялянства ўсіх нацыянальнасьцяй, пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі, за вызваленьне ад улады капіталістых, і адначасова будуць адбіты дасягненьні Савецкай Беларусі ў справе соцыялістычнага будаўніцтва.

1-ая ўсебеларуская выстаўка павінна паказаць усім працоўным, што вызваленьне Беларусі ад абшарнікаў і капіталістых, утварэньне савецкай улады, улады дыктатуры пролетарыяту, забясьпечылі магчымасьць шырокага разгортваньня гаспадарчага і культурнага разьвіцьця нашае краіны.

Выстаўка павінна паказаць усім працоўным Беларусі матар'яльныя магчымасьці нашае краіны для пабудовы соцыялізму, яна павінна яскрава падкрэсьліць, што толькі на базе індустрыялізацыі краіны, праз соцыялістычную перабудову сельскае гаспадаркі, шляхам яе колектывізацыі, Савецкая Беларусь зможа вырашыць задачу перамогі соцыялізму.

З гэтае прычыны выстаўка мае вялікае політычнае і экономічнае значэньне.

Пад выстаўку адведзена плошча ў 75 га, на якой будуць дэмонстравацца жывыя пасевы і пасадкі, як, напрыклад: 18 шматпалёвых севазваротаў на плошчы 9 га, гародныя і новыя культуры на плошчы 2 га, пладовы сад на плошчы ў 6 га, ягадныя кусты, клубніца, пладовы гадавальнік, гадавальнік сэлекцыйнага матар'ялу азімых і яравых, дэмонстрацыя ўплыву розных штучных угнаеньняў на ураджай зернавых, корань, і клубняплодаў, лёну. Будзе паказана плошча па кормаздабываньню з пасевамі адпаведных траў. Значная плошча адведзена машынаспробнай станцыі, якая пакажа ў дзеяньні розныя тыпы машын і прыладаў і іх практычнае ўжываньне ў гаспадарцы.

Усе гэтыя аддзелы будуць разьмешчаны ў 40 павільёнах. Гэтымі аддзеламі будзе ахоплена ўся народная гаспадарка і культура БССР, чаму выстаўка і зьявіцца школай для працоўных мас, дзе на кожнае запытаньне можна будзе знайсьці адказ.

Ставячы перад сабой такія вялікія мэты, выстаўка дасягне іх толькі тады, калі яна будзе мець масавы характар, калі з ёю пазн ёмяцца шырокія масы рабочых і сялян. Вось чаму галоўны выставачны комітэт і вынес пастанову аб неабходнасьці ных ільгот, якія будуць дыфэрэнцыяваны ад скідкі ў разьмеры 50 проц. чыгуначнага тарыфу да аплаты ўсіх выдаткаў, зьвязаных з удзельнічаньнем у экскурсіі, пры чым ільготы будуць давацца на мясцох раённымі і акр. выстаўкомамі ў залежнасьці ад матар'яльнай забясьпечанасьці тае ці іншай групы насельніцтва.

Адначасова з гэтым трэба мобілізаваць самадзейнасьць мясцовых організацый ў справе адшуканьня сродкаў для правядзеньня экскурсій. Абмежавацца толькі сродкамі, якія вы-



Проект сталоўкі ў Рэчыцы

правядзеньня організаваных экскурсій працоўных мас на 1-ую ўсебеларускую выстаўку для азнаямленьня апошніх як з усімі дасягненьнямі Беларусі за 10 год, так і з тымі шляхамі, па якіх пойдзе далейшае разьвіцьцё народнай гаспадаркі. Мяркуецца за час існаваньня выстаўкі прапусьціць 50.000 чалавек у організаваным парадку.

Каб даць магчымасьць удзельнічаць ў экскурсіях на выстаўку бядняцкай частцы насельніцтва, урад пайшоў на устанаўленьне для экскурсантаў значлучыў для гэтай справы ўрад, ніяк не магчыма. Трэба вакол гэтага пытаньня завастрыць увагу нашых коопэрацыйных і інш. грамадзкіх організацый, якія павінны ўзяць на сябе абавязкі паслаць пэўную колькасьць экскурсантаў за свой кошт.

Уся праца ў гэтай галіне ўсіх коопэрацыйных сыстэм і шэфскіх організацый павінна быць пабудавана пад гэтым пунктам погляду.

Тады мы, напэўна, зможам павялічыць і агульны лік экскурсантаў, што будзе вельмі карысна.

У мэтах дэмонстраваньня пэўнай змычкі працоўных гораду з працоўнымі вёскі, профэсійныя саюзы г.Менску ўзялі шэфства над экскурсантамі сялянамі, чаму экскурсанты на час абгляду выстаўкі будуць разьмяшчацца на кватэрах рабочых і служачых. Гэта жывая сувязь дасьць належны політычны эфэкт, бо працоўныя гораду і вёскі змогуць азнаёміць друг друга ў жывой гутарцы са сваім жыцьцём, бытам і г. д. Ад таго, як мы падрыхтуемся да выкананьня гэтай важнай з політычнага боку справы, залежыць яе посьпех.

Пагэтаму трэба вакол пытаньня організацыі экскурсій на выстаўку стварыць грамадзкую думку, правесьці растлумачальную працу сярод рабочых і сялян, што-б кожны рабочы і селянін ня толькі ведаў аб выстаўцы, а ў той ці іншай меры прыняў у ёй удзел.

**Невяровіч**

## Спажывецкая коопэрацыя на 1-ай усебеларускай выстаўцы сельскай гаспадаркі

Спажывецкая коопэрацыя на выстаўцы асноўнай мэтай мае адбіць сваю працу ў эпоху вялікай пабудовы соцыялістычнай гаспадаркі як удзел ў колектывізацыі вёскі, колектывізацыі быту наогул, удзел у індустрыялізацыі краіны і г. д.

Выходзячы з гэтага, павільён спажывецкай коопэрацыі ўключае наступныя аддзелы:

### 1. Коопэраваньне, паянакапленьне культмасавая і бытавая праца

Гэты аддзел павінен выразна паказаць, што асновай разьвіцьця спажыўсыстэмы ёсьць актыўны ўдзел шматмільённых працоўных мас.

Тут-жа адведзена месца падрыхтоўцы кадраў і актыву і як вынікі ўсяго становішча апарату, яго арабачэньне, вылучэнства.

Аддзел павінен будзе паказаць асноўныя рашэньні партыі па коопэрацыі.

У заключэньне першы аддзел дае вынікі соцспаборніцтва ў спажыўсыстэме.

### II. Кіно-радыё праца

Аддзел будзе абсталяваны ў асноўным наступнымі экспонатамі; апаратурай, макетамі, дыяграмамі, якія пакажуць удзел спажыўсыстэмы на адным з вучасткаў культурнай працы Дзеля большай яскравасьці і наглядгасьці пачата прапрацоўка пытаньня аб кіно-зьёмцы (на 800 мэтраў) важнейшых момантаў дзейнасьці сыстэмы.

Аддзел будзе радыёфікаваны.

У прыватнасьці павільён будзе мець кіно-залю ў 65 кв. мэтраў.



Хлебозавод у Бабруйску

### III. Кніжная праца

У гэтым аддзеле будзе будавацца натуральная ўзорная кніжная крама з адпаведным асортымэнтам кніг як з боку асноўных паказальнікаў сеткі, так і кнігапрасоўваньня.

Тут павінна адбіцца наша праца на адным з важнейшых фронтаў культурнага ўздыму гаспадаркі праз веды.

Аддзел павінен быць радыёфікаваны

### IV. Забесьпячэньне і разьмеркаваньне

Мэта гэтай часткі павільёну—паказаць матар'яльны рост сыстэмы, як вынік актыўнага ўдзелу працоўных мас і мерапрыемстваў коопэрацыі ў галіне ўздыму рэальнай зарплаты і паляпшэньня матар'яльнага становішча мас.

дзіцячага харчаваньня, комунальнага абслугоўваньня, буфэтаў і г. д.

Матар'ял будзе будавацца так, каб кожны прыяжджаючы на выстаўку селянін змог яскрава ўявіць ўсе выгады колектыўнага вядзеньня гаспадаркі і, у прыватнасьці, вызваленьня жанчын ы ад нудных штодзённых кухонных абавязкаў.

У такім-жа выглядзе толькі прыстасаваны да рабочай сеткі будзе пабудаваны і матар'ял па колектывізацыі быту ў горадзе.

У асноўным матар'ял будзе пабудованы на макетах і модэлях.



Кніжна-папяр. магазын Рэчыцк. Ц.Р.К. /праўленьне і працаўнікі/

Аддзел павінен адбіць нашы мерапрыемствы ў раёнах суцэльнай колектывізацыі як макетамі прадпрыемстваў, так і яскравымі для кожнага дыяграмамі, фотаздымкамі і г. д.

Вельмі важным пытаньнем зьяўляецца таксама якасьць абслугоўваньня працоўнага насельніцтва.

### V. Колектывізацыя быту і абслугоўваньне соцыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі

Важней за ўсё ў гэтым аддзеле паказаць абслугоўваньне колгасаў у галіне організацыі хлебапячэньня, сталовак, культурных чайных, яськяў,

### VI. Нарыхтоўкі

Аддзел будзе зьмяшчаць натуральныя ўзоры нарыхтоўваемых продуктаў і с/гаспадарчай сыравіны з некаторымі лічбовымі паказальнікамі. Гэтай часткай вызначаюцца мерапрыемствы спажыўсыстэмы па лініі забесьпячэньня рабочага спажыўца с/гаспадарчымі продуктамі.

Адначасова будзе паказан н/экспорт па важнейшай сыравіне.

### VII. Рэконструкцыя гандлёва-тэхнічнай базы спажыўсыстэмы

Капіталаўкладаньні ў паасобныя віды будаўніцтва зьяўяцца вельмі ці-

кавымі, бо кожная лічба будзе пацьвярджацца макетамі стандартаў буйнага і дробнага будаўніцтва ў сыстэме і тэхнічна-экономічнымі проектамі, тым больш, што ўсё гэта ў асноўным прыстасоўваецца да задач колектывізацыі гаспадаркі ў вёсцы і быту як у горадзе, так і ў вёсцы.

### VIII. Фінансавая політыка

Пакажа наша становішча і крыніцы паступлењняў, а гэтаксама ўдзельнічаньне спажыўсыстэмы сродкамі ў індустрыялізацыі краіны.

### IX. Аддзел МЦРК

Павінен будзе асабліва выяўляць працу МЦРК ў галіне культурна-масавага і матар'яльнага абслугоўваньня рабочага пайшчыка гор. Менску.

Разьмер павільёнаў 370 кв. мэтраў.

Праца па падрыхтоўцы матар'ялаў для абсталяваньня павільёну ўжо праводзіцца.

Такім чынам, па сутнасьці, увесь павільён будуецца на выпячваньні працы спажыўсыстэмы ва ўмовах правядзеньня асноўных задач партыі: 1) колектывізацыі вёскі, 2) індустрыялізацыі краіны, 3) рэконструкцыі ўсяе народнае гаспадаркі БССР і г. д.

Само сабой разумеецца, што павільён мяркуецца добра абсталяваць, каб кожны працоўны змог больш лёгка і яскрава, бяз стомы, а з захапленьнем аглядзець вынікі свайго ўдзелу ў соцыялістычным будаўніцтве і вынесьці поўныя веды аб працы ім жа створанай коопэрацыі.

---

К. Мадзалеўскі

## Саматужная коопэрацыя на с.-г. выстаўцы

Беларуская прамкоопэрацыя прымае ўдзел у выстаўцы супрацоўніцтвам у організацыі прамысловага сэктару, у якім яна зойме побач з павільёнамі саюзнай і рэспубліканскай прамысловасьці сумесна з мясцовай прамысловасьцю асобны павільён.

У ім у рэспубліканскім разрэзе будуць паказаны ўсе дасягненьні прамысловай коопэрацыі ў больш як 30 разьвітых яе промыслах.

Зьяўляючыся складанай часткаю адзінай народнай гаспадаркі, прамысловая коопэрацыя ня можа аддзяліцца і на выстаўцы. Для гэтага яна роўналежна з сваім галоўным саматужным аддзелам прыме таксама ўдзел у організацыі пададдзелаў лесахэмічнага, жывёлагадоўчага, прадзільных культур, экспорту і імпорту.

Паказаўшы ў саматужным аддзеле сваю лесахэмічную продукцыю, прамкоопэрацыя ў пададдзеле лесахэмічнай прамысловасьці, шляхам пабудаваньня там-жа на тэрыторыі выстаўкі чынных смалакуранага і сьпірта-парашковага заводаў, пакажа ўсе процэсы вытворчасьці іх, пачынаючы ад смаляка і канчаючы ачышчаным шпікінарам.

У пададдзеле жывёлагадоўлі прамкоопэрацыя будзе ўдзельнічаць пабудоваю на тэрыторыі выстаўкі кузьні, у якой саматужнікі-арцельшчыкі пад кіраўніцтвам спэцыялістага-профэсара, які праводзіў гэтую справу на замежных выстаўках, будуць каваць коняй па ўсіх правілах навукі.

У пададдзеле прадзільных культур будуць паказаны ўсе процэсы апрацоўкі пянькі і лёну ад руні да гатовых вырабаў.

У пададдзеле экспорту і імпорту будзе паказана, што, у якіх памерах і на якую суму вывозіць прамкоопэрацыя за межы, якія яшчэ вырабы мяркуецца прасунуць на замежны рынак у бліжэйшы час і якія вызначаны да экспорту на працягу пяцігодкі.

Акруговыя саматужна-прамысловыя саюзы, прымаючы ўдзел у выстаўцы ў саматужным аддзеле і ў паданых вышэй пададдзелах, прымуць удзел у

організацыі аддзелу мясцовай прамысловасьці, у якім яны будуць удзельнічаць кожны ў разрэзе свае акругі.

Згодна з распрацаваным белкустпрамсаюзам плянам, саматужны аддзел выстаўкі будзе мець тры непарыўна зьвязаныя між сабой часткі,—уводную, экспозыцыйную і дапаможную.

Задачай уводнае часткі зьяўляецца даць у зразумелай форме, у дыяграмах, мапаграмах і г. д. конкрэтную орыентыроўку ў пытаньнях прамысловакоопэрацыйнага будаўніцтва, напрыклад, у росьце рабочай сілы, у росьце продукцыі, ва ўдзельнай вазе прамысловай коопэрацыі ў народнай гаспадарцы краіны і г. д.

Экспозыцыйная частка будзе пададзена чыннымі прадпрыемствамі і варштатамі (смалакураны і сьпіртапарашковы заводы, кросны) модэлямі, фотоздымкамі, узорамі вырабаў, сыравіны і інш.

Уводная частка разам з экспозыцыйнай, такім чынам, дадуць закончаны малюнак вытворчай дзейнасьці прамысловай коопэрацыі.

У дапаможнай частцы будуць згрупаваны літаратура аб прамкоопэрацыі, выданьні Белкустпрамсаюзу, яго справаздачы, абслугоўваньне наведвальнікаў, там-жа будуць выдавацца даведкі і г. д.

Гэтая выстаўка, выстаўка дасягненьняў шырокіх працоўных мас, зразумела, немажліва бяз удзелу гэтых мас, і пасьпяховасьці яе залежыць ад актыўнасьці дапамогі працоўных мас выставачнаму комітэту.

У мэтах ажыцьцяўленьня гэтага, кожная арцель, кожнае крэд.-прам. т-ва павінна абраць камісію дапамогі організацыі выстаўкі. Зьвязаўшыся з сельскім ці раённым выставачным комітэтам праз свой прамысловы саюз, з акруговым выставачным комітэтам і праз Белкустпрамсаюз—з галоўным выставачным комітэтам, азнаёміўшыся з плянам організацыі выстаўкі і знаёмячыся са становішчам падрыхтоўкі да выстаўкі, комісія дапамогі павінна популярызаваць выстаўку сярод свайго колектыву, шырока выкарыстоўваючы ў гэтых мэтах насьценгазэту, чырвоны куток, клюб у сэнсе зьмяшчэньня артыкулаў аб выстаўцы, у сэнсе наладжваньня дакладаў аб ёй і справаздач аб прарobленай па падрыхтоўцы да выстаўкі рабоце.

Трэба заахвоціць у парадку спаборніцтва колектыў да дапамогі падрыхтоўцы да выстаўкі, разгарнуць па гэтым пытаньні крытыку.

Разам з колектывам комісія дапамогі павінна абмеркаваць, якімі вырабамі свайго промыслу прыняць удзел у выстаўцы, прасачыць за падборам іх, сваячасовай і акуратнай высылкай.

Аб практычных прапановах колектыву комісія дапамогі шляхам прэсы ці зносін з тым ці іншым выставачным комітэтам павінна паведаміць апошні.

У абавязак комісііі дапамогі ўваходзіць яшчэ адно важнае пытаньне.

Улічваючы ролю 1-й усебеларускай выстаўкі, як школы, камісія дапамогі павінна ўжыць усе захады да самага шырокага наведваньня выстаўкі саматужнікамі.

Комісія дапамогі павінна сумесна з колектывам заняцца пытаньнем, каму з колектыву даць магчымасьць паехаць на выстаўку на ільготных умовах, каму і якую даць ільготу, і высьветліць, хто паедзе за свой кошт.

Гэта трэба зрабіць загадзя і разьмеркаваць экскурсантаў так, каб ня было шкоды для вытворчасьці, нават пры пажаданым 100 проц. наведваньні выстаўкі колектывам.

Работу популярызацыі выстаўкі і падрыхтоўкі да яе трэба пачаць неадкладна, бо да адчыненьня выстаўкі засталося мала часу, менш як паўгода.

# Ачысьцім коопэрацыйныя шэрагі ад нягодных элемэнтаў

Г. Хаскін

## Што павінна даць чыстка Белкоопсаюзу.

XVI партконфэрэнцыя, а затым ЦК КП(б) у сваіх пастановах зусім яскрава вызначылі задачы, якія стаяць перад чысткай савецкага, гаспадарчага і коопэрацыйнага апарату. Аднак не пашкодзіць у момант пачатку чысткі цэнтральнага апарату спажывецкай коопэрацыі БССР зрабіць каму-кольвек напамін пра асобныя моманты з гэтых пастаноў. Гэта яшчэ неабходна, мне здаецца, і таму, што вопыт чысткі шэрагу ўстаноў паказаў, што некаторыя „з прычыны слабасьці памяці" на што-кольвек забыліся, і ў выніку атрымалася, што чыстка не дасягнула асноўнае мэты ачысткі апарату ад бюрократычных элемэнтаў, якія перашкаджаюць выкананьню генэральнае лініі партыі і перашкаджаюць правядзеньню ў жыцьцё пяцігадовага пляну. Маса далёка не ў дастатковай меры ўдзельнічала і дапамагала комісіям па чыстцы, і, як вынік гэтага, не маглі быць выяўлены ўсе хваробы, на якія хварэе наш апарат.

Цяпер, калі мы падышлі да чысткі Белкоопсаюзу, цэнтральнага апарату сыстэмы, які мае сувязь ва ўсёй сваёй рабоце з шырокімі масамі працоўных, на які партыя ўсклала аграмадныя політычныя і гаспадарчыя задачы, не пашкодзіць зрабіць напамін пра асобныя пастановы па гэтым пытаньні, якія прыняты на XVI партконфэрэнцыі.

„Найвялікшыя задачы, якія высунуты пяцігадовым плянам народнае гаспадаркі як у галіне далейшага разьвіцьця і пераводу на новую тэхнічную базу нашае індустрыі, так і ў галіне пасканэньня ўздыму сельскае гаспадаркі і яе социялістычнай перабудоўлі, ня могуць быць вырашаны без сапраўднага паляпшэньня дзяржаўнага апарату, без яго спрашчэньня і патаненьня, без выразнага вырашэньня кожным зьвенчаком дзяржаўнага апарату задач, якія стаяць перад ім, без рашучай перамогі яго коснасьці, валакіты, бюрократычнага зациску, кампанейскай кругавой парукі і адсутнасьці ўвагі да патрэб працоўных, бяз самага рашучага выжываньня з апарату чыноўнікаў, якія зжыліся з капіталістычнымі кулацкімі элемэнтамі, і няздольны даваць адпор спробам кулацка-нэпманскага наступу на пролетарыят, бяз зьнішчэньня форм кіраваньня, якія аджылі і не здавальняюць патрэбы савецкае краіны".

На выкананьне гэтых дырэктыў мы павінны пры чыстцы Белкоопсаюзу мобілізаваць увагу ўсіх працаўнікоў цэнтральнага апарату спажывецкай коопэрацыі БССР і з пункту погляду выкананьня гэтых дырэктыў мы павінны даць максымальную дапамогу комісіі па чыстцы апарату Белкоопсаюзу. Разам са значнымі дасягненьнямі, якія бясспрэчна ёсьць у рабоце цэнтральнага апарату Белкоопсаюзу, які праводзіць усю сваю працу пад кіраўніцтвам нашае партыі, трэба адзначыць яшчэ ў большай ступені і недахопы, якія ёсьць.

*Першы недахоп*—гэта тое, што Белкоопсаюз яшчэ поўнасьцю не перабудаваўся ў адпаведнасьці з цэлым шэрагам новых задач, якія стаяць перад спажыўкоопэрацыяй, што тлумачыцца, галоўным чынам, жаданьнем апарату хапацца за старыя формы і мэтоды працы, консэрватызмам асобных працаўнікоў і жаданьнем выра-

шаць часамі вельмі выжныя пытаньні старымі бюрократычнымі мэтодамі, а адсюль—боязьнь новых мэтодаў работы, а гэта цісьне і дужа моцна на ўвесь апарат ў цэлым.

*Другі недахоп*—адсутнасьць яшчэ дастатковае яскравасьці ў працы, хуткасьці выкананьня і адказнасьці кожнага за даручанае яму заданьне. У выніку гэтага вельмі часта затрымліваецца вырашэньне надзвычайна важных пытаньняў, якія зьвязаны з вялізарнымі політычнымі і гаспадарчымі задачамі нашае краіны. Тут надзвычайна на месцы добра будзе падаць цытату з Леніна: „Правяраць людзей і правяраць фактычнае выкананьне справы“—у гэтым, яшчэ раз у гэтым, толькі ў гэтым цяпер гвозд усяе працы, усяе політыкі“ (т. 18, ч. 2, стар. 17)-

*Трэці недахоп*—гэта пытаньне аб якасьці абслугоўваньня працоўных мас. Цэлы шэраг цяжкасьцяй у забесьпячэньні працоўных прамтаварамі і продуктамі харчаваньня об‘ектыўнага парадку (значнае павялічэньне попыту ў сувязі з павялічаным мат‘яльным дабрабытам насельніцтва) часта ўскладняюцца і ўзмацняюцца па віне самой коопэрацыі і ў першую чаргу тых апаратаў, якія ёю кіруюць.

*Чацьверты недахоп*—гэта выпадкі скрыўленьня клясавае лініі па сутнасьці, наяўнасьць правага ўхілу ў практычнай працы асобных частак апарату; асабліва гэта дае сябе адчуваць у пытаньнях коопэраваньня, паянакапленьня і ў абслугоўваньні асобных соцыяльных груп насельніцтва.

*Пяты недахоп*—гэта ўсё яшчэ недастатковае высоўваньне рабочых у апарат, а адсюль недастатковае арабочваньне апарату па нашай віне. Хоць за апошні час мы некаторых посьпехаў і дабіліся, але яны далёка недастатковыя. У выніку чысткі, у якой прымае актыўны ўдзел вялікая група рабочых, якая атрымае вялікі вопыт у працы Белкоопсаюзу, нам удасца за кошт гэтых рабочых павялічыць рабочае прапластаваньне ў апараце Белкоопсаюзу.

Усе гэтыя недахопы, а іх, бясспрэчна многа, бо я адзначыў толькі некаторыя ў нашай працы, у выніку чысткі павінны быць зьнішчаны. Чыстка павінна паказаць мяжу недахопам об‘ектыўнага парадку, паказаўшы, дзе пачынаюцца недахопы, па віне апарата, кіраўніцтва і асобных вінавайцаў. Асаблівае значэньне з прычыны гэтага мае тая падрыхтоўчая праца да чысткі, якая цяпер праводзіцца рабочымі брыгадамі і дае магчымасьць да пачатку самае чысткі мець яскравае ўяўленьне аб структуры і сыстэме працы апарату і асобных яго працаўнікох. Шмат, бясспрэчна, залежыць ад таго, наколькі з боку як усяго апарату, так і асобных яго працаўнікоў будзе дадзена сапраўдная неабходная дапамога пасумленнаму, нічога не захоўваючы ад рабочага брыгадзіра. Аднак, пакуль ня позна, трэба ўжо што-кольвек выправіць, бо ўжо ёсьць выпадкі, калі асобныя працаўнікі, замест правільнага растлумачэньня рабочым брыгадам пытаньняў, якія іх цікавяць, пачынаюць складваць адзін на другога віну і гэтым самым дэзорганізуюць рабочага брыгадзіра. Ёсьць выпадкі, калі брыгадзір інформуецца зачасьне няправільна, а тым самым адхіляецца ўвага брыгадзіра. Трэба з гэтым неадкладна скончыць, каб у далейшым такое „дапамогі“ ня было, бо гэта дасьць для чысткі не карысьць, а шкоду.

І так максымум дапамогі рабочым брыагдзірам і комісіі па чыстцы ў цэлым дасьць нам магчымасьць на справе, а не на словах выправіць недахопы, выправіць памылкі, ачысьціць апарат ад усяго бюрократычнага, гнілога, што перашкаджае правядзеньню пастаўленых партыяй і ўрадам перад коопэрацыяй задач.

М. П-кі

# Што робіцца да чысткі

З прычыны надыходзячае чысткі апарату ўжо прыступіла да працы комісія ЦКК-РСІ па праверцы дзейнасьці Белкоопсаюзу. Для практычнай дапамогі комісіі ў работу апошняй уцягнута 15 розных брыгад, якія складаюцца з прадстаўнікоў шэфаў над БКС рабочых-чыгуначнікаў, спэцыялістых розных устаноў, супрацоўнікаў БКС, студэнтаў і г. д. Усяго ў брыгады ўцягнута 120 чалавек.

Для больш дэталёвага вывучэньня работы, комісія ЦКК-РСІ рашыла пачаць агляд дзейнасьці БКС, раней азнаёміўшыся з працаю нізавых коопэрацыйных організацый. Для гэтае мэты ў Полацкую і Гомельскую акругі выехалі 4 прадстаўнікі комісіі, якія правядуць падрабязны агляд становішча працы акруговай і раённай коопсеткі. У астатніх акругах агляд работы нізавых коопэрацыйных організацый будзе праводзіцца акруговымі КК-РСІ.

Цэнтральная комісія мяркуе скончыць гэты агляд і падвесьці вынікі ў канцы красавіка месяца.

Пасьля дэталёвга азнаямленьня з дзейнасьцю Белкоопсаюзу цэнтральная комісія прыступіць да чысткі апарату.

Прыкладны парадак чысткі такі: па сканчэньні агляду працы БКС і нізавых організацый комісія складае сьпіс на тых працаўнікоў БКС, на якіх у комісіі будуць матар'ялы, патрэбныя для праверкі дзейнасьці гэтых працаўнікоў. Гэтыя працаўнікі будуць праходзіць чыстку апарату пэрсональна, а рэшта працаўнікоў БКС—у агульным парадку.

У сувязі з чысткай апарату цэнтральная комісія вызначыла плян арабочаньня апарату БКС, пры чым гэтае мерапрыемства будзе праведзена за кошт рабочых вылучэнцаў, якія цяпер праходзяць адпаведныя падрыхтоўчыя курсы пры ЦК КП(б) і за лік рабочых-чыгуначнікаў, шэфаў над БКС.



Віцебская самат.-прамысловая шавецка-абутковая арцель „Аб'яднаньне" 437 чал.

І. Гармізэ

# Асноўныя меркаваньні па рэарганізацыі апарату БКСаюзу

Пераход да соцыялістычнай перабудовы краіны і новыя формы вытворчых адносін абумовілі паскарэньне абмену і разьмеркаваньня пераходу ад рыначных форм тавараздвароту да соцыялістычнага разьмеркаваньня. Ад надзвычайна складаных і блытаных узаемаадносін, якія ўласьцівы рыначнаму тавараздвароту, разьмеркаваньне і абмен у новых умовах павінны будуць знайсьці адбітак, з аднаго боку, у вучоце і разьмеркаваньні продукцыі краіны, а з другога боку, у выкананьні задач, якія пастаўлены ў галіне разьмеркаваньня.

Глыбокая рэконструкцыя, якая ахапляе ўвесь процэс абмену і спажываньня, буйны рост колгаснага руху і падпарадкаваньне з прычыны гэтага значнай часткі продукцыі плянаваму ўзьдзейнічаньню робяць магчымым і патрабуюць рэорганізацыі разьмеркавальнага апарату, каранного зьмяненьня мэтодаў яго работы і прывядзеньня іх у поўную адпаведнасьць з пастаўленымі перад ім новымі задачамі. Мэтоды разьмеркаваньня, організацыя апарату, тэхніка разьмеркаваньня, організацыя вучоту—усе гэтыя моманты падлягаюць каранной пераапрацоўцы і прывядзеньню ў адзіную складаную сыстэму, якая аформляе заданьні па разьмеркаваньні продукцыі і організацыі спажыўца.

Спажывецкая коопэрацыя ў выніку гэтых зрухаў ператвараецца ў адзіны орган соцыялістычнага разьмеркаваньня, які згрупоўвае ў сваіх руках усе фонды тавараў і продукты індывідуальнага і групавога спажываньня. Як асноўная організацыя, якая згрупоўвае сваю работу ў галіне абмену і разьмеркаваньня, спажыўкоопэрацыя не абмяжоўвае сваю дзейнасьць выключна тэхнічным разьмеркаваньнем, а абавязана рашаць цэлы шэраг першачарговай важнасьці задач у справе соцыялістычнай перабудовы ўсяе народнай гаспадаркі.

Новы зьмест работ і новыя організацыйныя формы абмену і спажываньня патрабуюць перабудовы ўсяе сыстэмы спажыўкоопэрацыі і мэтодаў яе работы зьверху да нізу на падставе цэнтралізацыі, організацыі разьмеркаваньня пры адначасовай дэцэнтралізацыі гаспадарча-опэрацыйных дзеяньняў

Буйнейшым фактарам, які патрабуе рашуча правесьці ў поўнай ступені гэту формулу ў жыцьцё, зьяўляюцца новыя, пастаўленыя перад спажыўкоопэрацыяй задачы, а менавіта:

а) максымальнае падвышэньне дабрабыту працоўных гарадоў і аграмаджанага сэктару сельскай гаспадаркі;

б) узмацненьне ўзьдзейнічаньня на спажываньне насельніцтва на падставе спажываньня і тэхнікі нормаваньня, выходзячы з асноўнага прынцыпу ўзгадненьня структуры спажываньня з новымі соцыяльна-экономічнымі і бытавымі ўмовамі краіны, так роўна і найбольш рацыянальнага скарыстаньня матар'яльных каштоўнасьцяў краіны;

в) актыўнае садзейнічаньне колгаснаму і саўгаснаму будаўніцтву шляхам выразнай організацыі абслугоўваньня соцыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі;

г) рашучы ўдзел у мобілізацыі сродкаў на патрэбы індустрыялізацыі краіны шляхам мобілізацыі ўсіх матар'яльных і фінансавых рэсурсаў унутры сыстэмы, так роўна і мобілізацыя сродкаў насельніцтва;

д) удзел у рабоце па ўздыму культурнага ўзроўню працоўных, шляхам разьвіцьця як усіх форм коопэрацыйнай грамадзкасьці, так і агульнадзяржаўных культурна-бытавых мерапрыемстваў.

Відавочна, што свае задачы ў новых умовах спажыўкоопэрацыя зможа выканаць пры зусім інакшай форме організацыйных узаемаадносін, іншай структурнай пабудове апаратаў усіх зьвеньняў сыстэмы на падставе выразнага падзяленьня працы між імі.

Само сабой разумеецца, што цяперашняя пабудова апарату і мэтодаў яго работы прышлі ў поўную неадпаведнасьць з новым зьместам задач, пастаўленых перад спажыўкоопэрацыяй.

Па сутнасьці БКСаюз, як рэспубліканскі цэнтр спажыўкоопэрацыі БССР пры цяперашніх мэтодах і формах не прыстасаваны да ажыцьцяўленьня сапраўднага кіраўніцтва ўсёй сыстэмай.

Цэнтралізуючы ўсё афармленьне опэрацыйных дзеяньняў і концэнтруючы ў сабе бягучае выкананьне дагавораў, хаця і без складзкіх опэрацый, БКСаюз гэтым самым у значнай частцы завальвае сябе дробнай гандлёвай опэрацыйнай апекай, і гэтым самым не праводзіць у жыцьцё дэцэнтралізацыю гаспадарча-опэрацыйных дзеяньняў, як адзіна здольнага прынцыпу работы, які можа выклікаць ініцыятыву і самадзейнасьць нізавога зьвенчаку.

І таму організуючая роля БКСаюзу, якая грунтуецца на старых формах і мэтодах гандлёвых сувязяй, не змагла ў мінулым і ў сучасны час ня можа ахапіць тыя новыя задачы, да вырашэньня якіх спажыўкоопэрацыя ўжо шчыльна падыйшла. Надзвычайны патоп документаў і, у прыватнасьці, сьцягваньне пярвічных дакумантаў у БКС, зьяўляецца ня чым іншым, як адлюстраваньнем заблытаных форм гандлёвых сувязяй, якія завальваюць апарат Белкоопсаюзу лішняй тэхнічнай работай. Адсюль і вялікі апарат БКС.

У сыстэме організацыйнага будаўніцтва сыстэма існаваньня райсаюзаў у сувязі з узбуйненьнем нізавога сельскага зьвенчаку і плянавых ахопах пераважнай масы тавараў, правадзімых спажыўкоопэрацыяй па абодвух кірунках становіцца зусім лішнім. Пры такім становішчы Райсаюз як цалкам закончаная гаспадарчая організацыя, губляе сваё самастойнае значэньне, як організатар нізавых процэсаў у галіне разьмеркаваньня.

Нарэшце, кажучы аб нізавым зьвенчаку ў сельскім сэктары, трэба адзначыць, што ён, асабліва на сяле, у значнай частцы нагадвае сабой мэханічнага выканаўцу загадаў „зьверху", а адсюль слабая ініцыятыва ва ўсіх галінах коопэрацыйнага будаўніцтва.— „Худосочие" нізавога сельскага коопэратыву зьяўляецца лёгічным вынікам зажыму яго самадзейнасьці існуючай сыстэмай цэнтралізацыі ўсіх опэрацыйных дзеяньняў, якія зьвязаны з організацыяй забесьпячэньня і разьмеркаваньня.

Новыя задачы, якія пастаўлены перад спажыўкоопэрацыяй, патрабуюць неадкладнага прывядзеньня ў адпаведнасьць організацыйнага будаўніцтва сыстэмы, узаемаадносін між асобнымі зьвенчакамі яе—новаму зьместу работы. Мэтоды гандлёвай работы і гандлёвых сувязяй павінны быць рашуча выведзены з сфэры дзейнасьці сыстэмы і яе ўнутраных узаемаадносін на падставе цэнтралізацыі кіраўніцтва і дэцэнтралізацыі гаспадарча-опэрацыйных функцый.

Фактарамі, якія дазваляюць правядзеньне ў поўным аб'ёме гэтай формулы ў жыцьцё, зьяўляюцца:

а) праведзеная крэдытная рэформа, якая значна спрашчае дакумантазварот і ўзаемаадносіны асобных зьвенчакоў між сабой, з аднаго боку, і ўзаемаадносіны спажыўкоопэрацыі з іншымі сэктарамі народнай гаспадаркі;

б) узбуйненьне нізавога зьвенчаку з давядзеньнем яго ахопу да межаў адміністрацыйнага раёну ў самы карацейшы час. Аднак за гэтым узбуйненьнем павінна сьледваць перадача яму (нізавому зьвенчаку) усіх опэрацыйных дзеяньняў і ў поўным ахопе організацыі нізавых процэсаў;

в) няўхільнасьць-жа рэорганізацыі (каранной) райсаюзнага зьвенчаку ў аддзяленьне БКС на правах яго неразьдзельнай часьці. Райсаюз, які пэратвораны ў аддзяленьне БКС з опэрацыйнымі функцыямі, лічыцца пераходным зьвенчаком да канчатко-

вага ўзбуйненьня нізавога зьвенчаку, што дае магчымасьць поўнасьцю ліквідаваць сярэдні зьвянчак;

г) неабходнасьць максымальнага спрашчэньня дакумантазваротаў;

д) поўная ліквідацыя ў БКСаюзе ўсіх складзкіх опэрацый;

е) поўнае аб'яднаньне ўсяго опэрацыйнага і статыстычнага вучоту;

ж) спэцыялізацыя інструктажу і яго аб'яднаньне.

Ва ўмовах аслабаненьня БКСаюзу ад опэрацыйна-гандлёвых функцый, работа яго павінна быць пераключана на сапраўдную організацыю ўсіх галін работы спажыўкоопэрацыі на падставе адзінага пляну.

Дэцэнтралізацыя опэрацыйнай работы ў паказаным напрамку ператварае ўсе кіраўніцтвы і аддзелы БКСаюзу ў опэрацыйна-плянавыя групы.

Структура апарату БКСаюзу павінна быць пабудована з вучотам выкладзеных меркаваньняў *на падставе* рашучага скарачэньня ўсёй лішняй тэхнічнай работы і найбольш поўнага адлюстраваньня тых новых галін коопэрацыйнага будаўніцтва, якія высунуты новымі задачамі.

Пра схэму структуры апарату БКС мы пагаворым у наступным нумары.

**Капусьцін**

# Загатоўчы апарат Барысаву ў руках клясавага ворага

Практыка мясанарыхтовак ў горадзе Барысаве паказала, што загатоўчы апарат спажывецкае сыстэмы і другіх організацый скажаў лінію партыі і савецкае ўлады ў пытаньні мясанарыхтовак. Характэрнаю зьяваю ў практыцы іхнае працы зьяўляецца пераплата. Амаль на кожнай загатоўленай жывёле пераплочана ад 30 да 60 і больш рублёў. Гэта, бясспрэчна, адбілася на рабочым забесьпячэньні. Мяса рабочаму выдавалася па падвышанай цане.

Калі паставілі пра гэта пытаньне перад старшынёю спажывецкага таварыства, тав. Марзыганавым, дык ён адказаў, што пераплаты рабілі ў сувязі з адсутнасьцю належнага кіраўніцтва ў нарыхтоўках з боку вышэйшых органаў, і што гэтага патрабавала бесьперабойнасьць забесьпячэньня рабочых.

Аднак, калі ўвайсьці ў курс справы, дык гэта зусім ня так. Старшыня праўленьня Марзыганаў любіць вялікія прыбыткі і, каб пазбавіцца ад дэфіцыту, ён сьвядома прадаваў мяса рабочым па значна большай цане, чым гэта належала. Барысаўскі мясны рынак засьмечаны загатоўшчыкамі—клясавымі ворагамі, якія бязьдзейнічаюць і падрываюць нашую мясную загатоўчую політыку.

Некалькі слоў пра гэта. Вось галерэя гэтых загатоўшчыкаў:

**Прыгараднае спажывецкае таварыства.**

1) Хэйфец, пазбаўлены выбарчых правоў, былы гандляр.

2) Гутман, пазбаўлены выбарчых правоў, былы гандляр.

3) Басок, пазбаўлены выбарчых правоў, гандляр коньмі.

4) Шац, невядомая асоба.

**Барысаўскае с.-г. крэдытнае таварыства.**

1) Левітан, пазбаўлены выбарчых правоў, гандляр коньмі.

2) Мэсарман, пазбаўлены выбарчых правоў, былы контрабандысты.

**Белмясгандаль.**

1) Дворкін, пазбаўлены выбарчых правоў.

Такім чынам у Барысаве сярод нарыхтоўцаў 70 проц. лішэнцаў. Адсюль і сам вынік, якое становішча можа быць ў працы.

Трэба неадкладна выправіць гэтыя памылкі.

# Літаратурны куток

Р. Л.

## Вынаходца Паднос

(*Нарыс*)

Прозьвішча ў яго не асабліва гучнае—П а д н о с. Імя—Барыс Ільловіч. Працуе ён у якасьці загадчыка магазынам МЦРК, што на Шырокай вуліцы.

Уласьне кажучы, чытач, прачытаўшы гэтае прозьвішча, пацісьне плячыма і спытае:

— Ну дык што-ж? Ці мала ў нас загадчыкаў магазынамі? Што тут асаблівага?

А між тым асаблівае ў ім ёсьць. Тав. Паднос зьяўляецца ня проста завам, ня проста коопэрацыйным працаўніком, ён належыць да тыпу тых людзей, якія аддаюць усю душу, усе свае веды на працу. Гэта адзін з тых савецкіх коопэратараў, якія імкнуцца як можна лепш абслужыць спажыўца, як можна лепш абсталяваць магазын.

Між іншым падыйдзем да справы.

Год таму назад вялікая чарга абкружыла тав. Падноса, крычала, хвалявалася, лаялася.

Людзі, раззлаваныя доўгім стаяньнем у чарзе, абкідалі загадчыка магазынам упікамі, абвінавачвалі ў нераспарадчасьці.

— Што ў вас за магазын? Што ў вас за прыказчыкі?

— У чым справа?

— Ды яны-ж варочаюцца, як мёртвыя... Куды варта такая праца?

Хваляваліся спажыўцы, хваляваўся і таварыш Паднос.

Што скажаш? Што будзеш рабіць?

Штат працаўнікоў не спраўляўся сваячасова выдаваць тавары. Узьнікалі лаянкі, сыпаліся ўпікі, абражана выцірала хусьцінкаю заплаканыя вочы прыказчыца.

Цяжкі быў дзень.

Як шалёны лётаў ад аднаго да другога загадчык, супакойваў, угаварваў, наводзіў парадак. Вечарам пашоў да хаты Паднос, разьбіты і ўсхваляваны. Устрывожана спаткала жонка.



Вынаходца Паднос. У руцэ ў яго прылада для ножыка, якая значна скарачае працу.

— Што з табой?

— Нічога

— Чаму ты такі белы?

— Чарга замучыла. Цяжка...

Адсюль і пачалося. Ночы сядзеў таварыш Паднос над кніжкамі, нешта вывучаў, нешта маляваў на кароценькіх кавалках паперы, над нечым упарта працаваў. Якаясь прычэпная

думка засела нейдзе ў самай глыбіні галавы і не давала ні на хвіліну спакою. Часамі ён, выдаючы тавар спажыўцом, задумваўся, а потым, зноў прачнуўшыся, ускідваў галавой і браўся за работу.

Часамі заспакойваючы падбадзёрваў прыказчыкаў мудрымі загадкавымі словамі:

— Пачакайце яшчэ крыху—і нам лепш будзе.

Тыя неразумеючы ківалі галовамі, задавалі яму пытаньні, але ён толькі



Фасавальная машына, вынайдземая Падносам.

адмахваўся ды зрэдку на што-кольвек рабіў намёкі, але поўнага адказу не даваў.

— Пачакайце.

Ішоў час. Упарта працаваў Паднос. упарта сядзеў цэлыя ночы над сваімі малюнкамі. Лаялася жонка.

— Пакінь, Барыс!—Пакінь, кажу табе,—гаварыла яна.

— Чаму пакінь?

— Сапраўды з розуму сыйдзеш! Што я тады буду рабіць?

— Нічога, Рахіль,—упарта ківаў ён галавой.

І нарэшце прышоў час, калі Барыс скончыў сваю працу. Прышоў час, калі ён вясёлы і горды падаў праўленьню Менскага цэрабкопу цалкам распрацаваны проект новае фасавальнае машыны.

— Вось. захлёбваючыся словамі, тлумачыў Паднос.—Вось тут шклянкі мэталічныя... Тут вось шрубы... Сюды трэба сыпаць цукровы пясок ці, скажам, крупы... Адзін ўзмах рукі, потым невялічкі рух—і атрымоўвайце. Кілё круп адважана. А хочаце, два кілё. А калі многа, можна і дзьвесце грам.

У той-жа дзень праўленьне МЦРК сур'ёзна ўзялося за вывучэньне проекту таварыша Падноса. Праз некалькі дзён токар, па паказаньнях Падноса, са старых кускоў дымагарнае трубы вытачыў фасавальныя шклянкі, стэльмах зрабіў коўш—і гатова. Машына працуе.

Дзякуючы гэтай машыне самы нekваліфікаваны чалавек можа зрабіць 800 пакункаў рознае вагі ў гадзіну. Крупы, цукар і другія сыпучыя тавары сыплюцца ў сыстэму шклянак ў той колькасьці, якая неабходна спажыўцу.

Ленінградзкі комітэт па справах вынаходтзваў ужо выдаў тав. Падносу патэнт. Вынаходца адмовіўся ад узнагароды і перадаў сродкі ў фонд індустрыялізацыі.

Машына, вынайдзеная таварышам Падносам, дае экономію ў людзях, значна скарачае чаргі, упарадкоўвае працу магазыну, каштуе яна ўсяго 60 рублёў.

Масавае ўжываньне машыны толькі па магазынах Менскага Цэрабкопу дасьць 25-30 тысяч рублёў экономіі кожны год.

Аднак, на гэтым вынаходца не заспакоіўся. Ён прыдумаў заціск для ножыка. Патэнт ўжо зацьверджаны Ленінградзкім комітэтам па справах вынаходзтва. Усё вынаходзтва ў тым, што любы ножык, заціснуты ў гэтую прыладу і падважаны да асобнага

рамянька, які прывязваецца да лакця, значна палягчае працу пры рэзцы. Такім ножыкам можа рэзаць чалавек, у якога няма чатырох пальцаў. Апрача таго, значна ножык меншыць працу. А ўсё вынаходзтва каштуе паўтара рублі.

І трэцяе вынаходзтва. Тут ужо працаўнік прылаўку ўдарыўся ў хэмію Гэта значыць, ў тую хэмію, з якою ён абсолютна незнаёмы.

Неяк, зайшоўшы ўпраўленьне МЦРК, тав. Паднос падняў некалькі выкарыстаных лент для пішучых машын. Ленты былі старыя, нягодныя. Некалькі дзён сядзеў Паднос над гэтымі лентамі і думаў ў разьліку на тое, што іх яшчэ можна паправіць і зноў карыстацца. Зусім выпадкова ён знайшоў хэмічны раствор, дзякуючы якому ўсе старыя ленты ня толькі аднаўляюцца, што імі можна працаваць такі ж час, як і новымі.

Не адкідваючы справы надоўга, таварыш Паднос пабудаваў невялікую прыладу для пракаткі лент, прапітаў яго сваім растворам і панёс на спробу ў ВСНГ.

Там правяралі цэлы месяц. Старыя ленты аказаліся цалком прыгоднымі для ўжываньня. Ужо зацьверджаны патэнт і на гэта вынаходзтва тав. Падноса. Кілё хэмічнага раствору, які аднаўляе ленты, каштуе 30 кап.

Па самых малых падліках хэмічны раствор па аднаўленьню лент можа даць экономіі па ўсяму Савецкаму Саюзу ня менш 300 тысяч рублёў ў год.

Вынаходца прэм'яваны. Яго ўжо накіроўваюць на вучобу. Няхай ўдасканальваецца, няхай вучыцца, няхайканчае пачатыя ім новыя працы.

Прозьвішча яго не асабліва гучнае — Паднос. Імя-Барыс Ільвовіч. Было-б ня дрэнна, каб мы маглі налічваць такіх Барысаў Ільвовічаў дзесяткамі тысяч.

**Алесь Веснавы**

# І запас бяду чыніць

(*Праўдзівае здарэньне*)

Пачалося ўсё з гораду. Мікіта прыяжджаў у нейкую установу па справах і сваімі вачыма бачыў, як на вуліцы стаяла вялікая чарга. Калі ён спытаў у аднаго падарожнага:

— Што гэта за чарга, таварыш?— той яму адказаў:

— Запас людзі робяць.

Мікіта паглядзеў яму ў твар, паразважаў пасвойму і пашоў па справах. І вечарам, калі Мікіта ішоў на цягнік, ён зноў бачыў чаргу каля другога коопэратыву (ў той дзень па некаторых прычынах у горадзе ня было зранку хлеба).

— Значыць, тут, нешта ня зусім...— зрабіў вывад Мікіта.

Назаўтра ўся вёска Непавераўка ведала аб тым, што бачыў Мікіта, што казалі яму далікатна-адзетыя людзі.

— Справа завязваецца тужэй.

— Трэба мець на ўвазе.

— У горадзе народ чулы, вымерваюць усё тонка, як баромэтр пагоду — зрабіў урэшце вынік сваіх меркаваньняў самы разумны чалавек у вёсцы, дзе жыў Мікіта, Янук Трагубіца.

— Тут яно такая справа: паколькі запас бяды ня чыніць, дык чаму ня купіць чаго-небудзь і нам.



Аб усіх Мікітавых навінах цётка Агата даведалася са спазьненьнем.

— Думай, такую штуку. Каб не зайшла да вас, дык і ня ведала-б аб тым, што творыцца на сьвеце. Дзякую вам за навіны,—казала яна на разьвітаньне сваім суседзям.

* * *

Праз паўтара гады цётка Агата ўпрашвала члена сельсавету ўзяць „ва ўніманьне“ яе просьбу.

— Кандратка, любы, ратуй! Май чалавечае сумленьне.

— Я ня маю права без дазволу сельсавету.

— Кандратка, хто ў цябе будзе дапытвацца таго права на гэтакага шыбельніка.

— Усёроўна чалавек—правы для ўсіх даюцца, раз ён ня лішэнец.

— Яго нельга лічыць за чалавека, калі ён гоніцца на ўласнасьць беднае ўдавы. Семдзесят год пражыла—ня бачыла такога чалавека. Ён тады шэльма чорт ведама які запас усяго рабіў. Селядцоў адных больш як паўпуда сьвіньням пасьля выкінуў, алею гарнец згоркла, а соль і газа можа і цяпер тая ёсьць. Дык я ўсё маўчала, бо ведала, што я ўдава, каму ты будзеш гаварыць, хто цябе паслухае. А цяпер ён шыбельнік такі—на маё пагнаўся—можа згнаіў ужо.

— Згнаіў, дык заплоціць. Акт напішам, калі сельсавет дасьць загад.

— А без яго, без сельсавету, нельга, Кандратка?

— Ніяк нельга.

* * *

Назаўтра раніцаю Агата раней звычайнага выпаліла ў печы, даглядзела сваіх сьвіней і чуць-чуць пакульгваючы ад ранейшае хваробы, паклыпала ў сельсавет.

Калі дайшла чарга да Агаты, старшыня, выслухаўшы яе скаргу, і вочы вытарашчыў, а Агата гэтым часам:

— Таварыш „прасідацель“, вазьмеце „ва ўніманьне“ скаргу беднае ўдавы, уціхамірце трохі гэтага шэльму...

Старшыня—чалавек сярэдняга росту—раней, чым адказаць, прыняў выгляд дзелавога чалавека, падумаў трохі і, пацепваючы плячыма, паставіў цётцы Агаце пытаньне рубам:

— Чым вы дакажаце, хто будзе сьведкаю, што вы яму аддавалі на захаваньне? Тут блытаная рэч.

— Можа даказаць майстар, які рабіў, суседзі могуць даказаць. Узрост мой таксама.

— А навошта вы сабе рабілі гэта?—спытаў проста для цікавасьці старшыня.

— От усё, ведаеце пакуль жывы чалавек, дык клапоцішся, ды тады рабілі запас, паколькі ён бяды ня чыніць, а вышла...

— Зусім наадварот—перабіў старшыня.

— Як бачыце самі, таварыш прасідацель. Вазьмеце „ва ўніманьне“.

— Тут такое ўніманьне, справа заблытана, так што і розуму не дабярэш. Можна сказаць мёртвае дзела.

— Ото то-ж і то! Загэтым і хочацца разабрацца самой, як сьлед, пакуль жыва, а то памрэш, дык усё гатова ляснуць: і паліт	ура, і афарбоўка ў сярэдзіне, а тут як сабе ні кажэце, усё гэта каштуе беднай ўдаве, па капейцы зьбірала...

Прайшоўшы два разы па невялічкім пакоі сельсавету, старшыня ня то сабе, ня то да ўсіх сказаў:—за такімі дробязнымі справамі вялікія ўпушчаеш, а пасьля загадным тонам зьвярнуўся да сэкратара:

— Напішы члену сельсавету адносіну.

— Аб чым?

— Яна скажа,—махнуў рукой на Агату.

* * *

Дні зімою кароткія. Яшчэ сонца ня зусім зойдзе, як вечар паволі спускае свой змрок на зямлю. У Непавераўцы пацiху цярусіў сьняжок, сыпаў дробны на зямлю, на стрэхі. У хатах ужо пазапальвалі агні, як Агата прышла да члена сельсавету.

— Вось табе!—сказала яна і працягнула паперку.

— Зараз пабачым, што пішуць.

Кандрат разгарнуў адносіну, уважліва прачытаў яе і ў знак згоды махнуў галавою:

— Цяпер нам што плюнуць справу ўладзіць. Толькі старшага каравульнага клікну.

Праз паўгадзіны малыя дзеці, якія гулялі на вуліцы, ішлі чарадою за Кандратам, Тодарам (старшым каравульным) і Агатаю.

— Нешта ёсьць ужо,—шапталі адзін другому, і кожнага брала хцівасьць скарэй даведацца навіну, скарэй заімчаць яе да хаты.

Рыгор не адразу згадзіўся задаволіць патрабаваньне.

— Я яе з мястэчка прывёз тады— яна мне не заплаціла за гэта.

— Гэта чыста грашовая справа, яна аддасьць, а не—судом узыскаць можна.

— Ліха яго судзіцца будзе!

— Кандратка, я дзень картоплі капала яму за гэта.

— Дык што-ж ты яшчэ паклёп наводзіш! Бяры лямпу ды пойдзем.

— Я не пайду сёньня ўвечары лазіць па гары. Заўтра днём можна забраць.

-- А я табе загадваю на аснове адносіны сельсавету,—умяшаўся Тодар у гаворку Рыгора з Кандратам.

— А я ня слухаю!

— Пагавары болей, дык дагаворышся.

— Падумай, які начальнік. Я то аддам, хай ведае маю дабрату, але табе, Рыгорка, навука, як другі раз слухаць кожнага,—запальваючы лямпу гаварыў Рыгор.

* * *

— Думай ты шыбельнік, гэты—у труну збожжа сыпаць, засек знайшоў. Я па капейцы грошы зьбірала, а ён цяпер аддаць яшчэ ня хоча. Балазе схамянулася загадзя, а то памры, дык і зусім не аддаў-бы,—прыгаварвала ідучы за труною Агата.

Паўтара гады назад, калі цётка Агата дачулася пра недахваткі, яна доўга думала, што прыдбаць ёй, каб не адстаць ад суседзяў.

— Усё можа быць,—разважала яна.

І тады-ж вырашыла, нікому не кажучы, зрабіць сабе добрую труну. У мястэчку за дваццаць пяць вёрст заказала яна сабе палітураваную „хатку“.

— Усёроўна гэтыя грошы чорту лысаму застануцца, а так калі хоць за маю працу труна будзе. І праз тыдзень далёкі сваяк уночы, каб ніхто ня ведаў, прывёз Агаце яе заказ. Тады ён не павёз Агаце, а пакінуў ў сябе, паставіў яе на гары ля коміну. Аднойчы ў мінулую восень, калі ня было куды ссыпаць насеннае грэчкі і пшаніцы, ён доўга ня думаючы зьняў века, разгарадзіў труну напалам і ссыпаў туды яго. Пасьля зноў закрыў векам і падумаў.

— Ніколі сюды не дабярэцца ніякая брыда, не перашустараць мышы, а палітураваную труну ніякае ліха ня возьме.

І невядома чым усё гэта скончылася-б, каб Агата не адмовіла Рыгору ў пазычцы трох рублёў грошай. Тады ён, выходзячы з хаты, не ўцярпеў, каб не сказаць:

— Пачакай-жа, памрэш—бяз труны ў дол паложаць. Гэтыя словы нажом кальнулі ў сэрца Агаты.

— І сапраўды, ён можа зрабіць гэта—мільганула думка ў яе.



Цяпер, сьціраючы анучкаю пыл на труне, яна хадзіла навокал і прыгаварвала:

-— Мая ты хатка, мая ты, паслужыла ты засекам для гэтага шыбельніка. А на вуліцы крычалі дзеці, бегалі, сьмяяліся са здарэньня.

Калі Кандрат з Тодарам, адпачыўшы ўсталі, каб ісьці да хаты, цётка Агата апамяталася, спыніла іх і папрасіла яшчэ трошкі пасядзець у яе, а сама гэтым часам доўга капалася ў лахманох пад падушкаю.

— Вазьмі, Кандратка, за свае турботы.

— Ня трэба, цётка.

— Бяры—запас бяды ня чыніць!

— Дзякую, бывае, што запас бяду чыніць,—кінуў у адказ Кандрат, зачыняючы з Тодарам дзьверы.

# Рабочае забесьпячэньне на агляд

**Кантар**

## Становішча рабочага забесьпячэньня

Першыя пяць месяцаў бягучага гаспадарчага году па забесьпячэньню прайшлі пры вялікай напружанасьці па цэламу шэрагу продуктаў, ў той-жа самы час ёсьць значны рост паступленьняў продуктаў і тавараў па некаторых групах.

Калі параўнаем паступленьне шэрагу тавараў за першыя 5 месяцаў гэтага году з гэтым-жа пэрыодам мінулага году, дык наглядаецца наступнае становішча:

| | За 5 м-цаў 1929 г. | За 5 м-цаў 1930 г. | % павяліч. ці зьніж. (+ −) | |
|---|---|---|---|---|
| Мяса | 3398 цэнт. | 1435 цент. | + 118% | Астача засол. мяса ЦРК 1444 цэнтн. |
| Рыба сьвежая | 101 „ | 680 „ | + 580% | |
| Сала сьвіное | 760 „ | 478 „ | − 27% | |
| Масла кароўе | 218 „ | 117 „ | − 47% | Астача сала ў ЦРК на с/ч. 140 цэнтн. |
| Малако сьвежае | 135330 літр. | 133730 літр. | − 1% | |
| Яйкі | 223 скр. | 144 скр. | − 35% | |
| Крамніна | 279000 руб. | 180000 руб. | − 35% | |
| Гатовае адзеньне | 285000 „ | 601000 „ | + 111% | |
| Абутак | 169000 „ | 424000 „ | + 151% | |

Па маслу, салу і малаку назіраецца значнае невыкананьне плянаў загатоўчымі організацыямі.

У сучасны момант узмоцнена праводзіцца пастаўка малочнае жывёлы пры двух прыгародных калгасах „Назараўка“ і „Красная Бярэзіна“ з такім разрахункам, каб да красавіка м-ца давесьці да 700 галоў, а да кастрычніка—да 1000 галоў, што значна павялічыць паступленьне малака для забесьпячэньня гарадзкога насельніцтва. Апрача таго, цэрабкопам накіраваны прадстаўнік на раён для прыняцьця мер па ўзмацненьню паступленьня малочных продуктаў ад кол гасаў і арцеляй.

На сьвінаадкормачных пунктах ЦРК знаходзіцца 730 галоў сьвіней, забой якіх пачаўся ў першых чыслах красавіка.

У бліжэйшы час паступіць адна цыстэрна алейнага масла.

Для пасіленьня кіраўніцтва і ўплыву на работу ў прыгарадных колгасах цэрабкопам за свой рахунак пасланы на сталую работу два працаўнікі з апарату і коопактыву.

Што датычыцца пашырэньня грамадзкага харчаваньня, дык адчынена адна сталоўка для начскладу ў памяшканьні былой „белай царквы“ і яшчэ адна сталоўка адчыняецца ў першых чыслах мая па соцыялістычнай вуліцы. У бліжэйшы час, калі гарсавет дасьць памяшканьне, савецкая чайная будзе пераабсталявана пад вэгетарыянскую сталоўку.

У сувязі з напружаным становішчам мясных запасаў, па пастанове вышэйшых органаў норма мяса ў сталоўках зьніжана да 150 гр. на

едака ў дзень, але адначасова павялічаны нормы гарніраў па другіх блюдах.

Мы маем такое зьніжэньне ў цэнах на тавары: сярэдні процант зьніжэньня па харчов. групе—8,3 проц., на крамніну зьніжана 9 проц., на галёшы і абутак зьніжана 10 проц., на гатовае адзеньне і бялізну зьніжана 8 проц.

Зьніжэньне цэн па паданых групах тавараў павінна даць экономію ў бюджэце рабочага насельніцтва да І/Х 30 г. на 282.830 рублёў.

Гэтае мэрапрыемства зьяўляецца адным з сур'ёзных у справе ўзмацненьня рэальнай зарплаты рабочых і служачых.

Перад Цэрабкопам стаіць шэраг складаных задач па ўзмацненьню рабочага забесьпячэньня, разьвіцьцю гандлёвай сеткі і сталовак, пабудове адкормачных пунктаў, птушкаводзтву, кролікаводзтву, а таксама аказаньню дапамогі прыгародным калгасам. Рашэньне гэтых пытаньняў выклікае пасіленае ўскладаньне сродкаў.




**Таварышы коопэратары!**

**Дасылайце матар'ял у сваю часопісь па пытаньні рабочага забесьпячэньня**

Сяргей Лодысеў

# Коопэрацыя ў раёне суцэльнай колектывізацыі

(*Ляднянскі раён, Аршанскае акругі*)

Гэты раён па сваёй тэрыторыі мае два сельска-гаспадарчыя крэдытныя таварыствы, якія аб'яднаюць 3423 гаспадаркі. З гэтага ліку гаспадарак у пайніках 2402 чал., што дае 70,1% коопэраваных двароў.

Калі спыніцца на коопэраваньні паасобных гаспадарак раёну, дык мы будзем мець наступны малюнак:

| Гаспадаркі ў раёне дзейнасьці па соцыяльных групах | Лік | З іх зьяўляюцца пайнікамі | | % коопэрав. | Сума паявога капіт. бяз спэц. сродкаў | Сярэдні пай |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Усяго | Жанч. | | | |
| 1. Аслабан. ад с.-г. падатку . . . . | 1298 | 1298 | 323 | 100 | 8093 руб. | 6 руб. 23 к. |
| 2. Плоц. падатак па норме . . . . | 2045 | 1086 | 69 | 53 | 6585 „ | 6 „ |
| 3. Кулацкіх . . . . . . . . . . . | 79 | 18 | — | 22 | 108 „ | 6 „ |
| Разам . . . . . . | 3423 | 2402 | 392 | 70,1 | 14736 руб. | 6 руб. 13 к. |

Гэтыя лічбы нам гавораць са ўсёю сваёю выразнасьцю аб надзвычайна нізкім сярэднім паі і амаль што злачынным дзеяньні праўленьняў па спагнаньні паявога капіталу па соцыяльных групах. Хоць бедната і коопэравана поўнасьцю, але-ж бядняцкі сярэдні пай зьяўляецца большым, чым серадняцкі. Тыя 18 кулацкіх пайнікаў, аб якіх гаворыцца ў вышэйпаданай табліцы, на сеньняшні дзень са складу пайнікаў выключаны, а паі іх конфіскаваны.

Калі спыніцца на крэдытных опэрацыях, дык тут назіраюцца такія дасягненьні: у 1927-28 г. было выдадзена крэдытаў 75225 руб., а ў 1928-29 г.—96049 руб. (рост на 20824 руб.). Па соцыяльных групах крэдыт разьмеркаваны такім чынам: беднаце—45 проц., серадняком—28 проц., саўгасам—0,27 проц., колгасам—18,8 проц., арцелям і розным саматужным прадпрыемствам—7,93%.

Такім чынам можна з упэўненасьцю сказаць, што крэдыты па клясаваму прынцыпу скарыстоўваліся правільна. Кепска тое, што ёсьць 18149 р. пратэрмінованых пазык, і таварыствы на спагнаньне гэтых пратэрміновак не зьвяртаюць досыць сур'ёзнае ўвагі.

Крэдытныя таварыствы раёну надзвычайна дрэнна працуюць у галіне прыцягненьня сялянскіх укладаў, і гэта тлумачыцца тым, што таварыствы не клапоцяцца аб рабоце сярод бядняцка-серадняцкай масы, якая-б была штурхачом у гэтым напрамку і прамым дапаможнікам т-вам па прыцягненьню ўкладчыкаў, таму мы маем толькі 35 укладчыкаў на суму 2191 р. і іншых укладчыкаў—39 асоб на суму 17496 руб.

Акрамя крэдытнай, ёсьць і спажывецкая коопэрацыя, якой коопэравана 1162 бядняцкія гаспадаркі (85 проц.) Фонд па коопэраваньні беднаты поўнасьцю не скарыстаны, што паказвае на невыкананьне партыйных, савецкіх і коопэрацыйных дырэктыў аб 100 проц. коопэраваньні беднаты. У

гэтым напрамку слаба працавалі самі праўленьні, сельсаветы СКСТУ, а таксама і райвыканкомы.

Дынаміку росту пайнікаў і паявога капіталу можым бачыць з наступнае табліцы:

| Гады | Пайнікаў | Паявы капітал | Сярэд. пай |
|---|---|---|---|
| 1927-28 . | 2708 | 21565 р. 38 к. | 7 р. 96 к. |
| 1928-29 . | 3461 | 36831 р. 56 к. | 14 р. 45 к. |
| На 1/I 30 | 3761 | 42404 р. 81 к. | 11 р. 42 к. |

авансуюцца таварамі за лік крэдытаў. У колгасным руху спажывецкая коопэрацыя прымае пэўны ўдзел як шляхам разгортваньня політыка-асьветнай работы, а таксама і шляхам організацыі розных гурткоў. Стала працуе кіно-перасоўка.

З 1240 бядняцкіх гаспадарак коопэравана с.-г. коопэрацыяй: за сродкі комітэтаў узаемадапамогі 352 гаспадаркі, за фонд коопэрацыі—250 гасп. і за ўласныя сродкі—1145 гаспадарак. Такім чынам, сельска-гаспадарчай коопэрацыяй аб'яднана 92%



Профтэхшкола краўцоў у Віцебску ў 140 чал.

бядняцкіх гаспадарак, а па лініі спажывецкай коопэрацыі—100%.

Сетка спажывецкай коопэрацыі абслугоўваецца 9 крамамі, ці адна крама на 661 двор. Зварот па завозу тавараў значна ўзрос: калі ў 1928 г. ён выражаўся ў суме 396873 руб., то ў 1929 г. дасягнуў 540134 руб.

Накладныя выдаткі ў параўнаньні з 1928 г. зьнізіліся з 10,8 проц. да 5,7 проц. у 1929 г.

Усе колгасы, у якіх маемасьць і сродкі вытворчасьці абагулены, коопэраваны ў колектыўным парадку. Сярэдні пай складае 2 р. 50 к. на аднаго члена. Для колгасаў спэцыяльна браніруюцца тавары, і колгасьнікі

Трэба сказаць, што мэтоды і форма работы коопэрацыйных організацый раёну яшчэ не прыстасаваны да ўмоў суцэльнай колектывізацыі.

У рабоце коопэрацыі мы маем скрыўленьне клясавай лініі (аднолькавыя разьмеры паёў у с.-г. коопэрацыі - 6 руб. бядняцкі пай і 6 руб. для серадняцкіх гаспадарак).

Вось кораценька ўсё тое, што мы маем па лініі коопэрацыі ў раёне суцэльнай колектывізацыі сельскае гаспадаркі.

# Скарыстаем радыё

Туркеніч

## Пра новыя задачы спажыўкоопэрацыі

У мінулым годзе спажывецкая коопэрацыя зрабіла першы крок па шляху плянавай радыёфікацыі.

Неразуменьне шэрагам саюзаў важнасьці гэтае справы радыёфікацыі вёскі прывяло да таго, што праробленая праца была дужа нязначнаю. Вялікія пэрспэктывы выкарыстаньня радыё пры правядзеньні культурнае рэволюцыі, асабліва ў перабудове працы і быту ў нашай сельскай гаспадарцы.

Перад спажывецкай сыстэмай, як асноўнай організацыяй, на якую ўскладзена пераважная частка працы па радыёфікацыі вёскі ўскладаецца вялікая задача ў галіне плянавай радыёфікацыі.

Спажывецкая коопэрацыя БССР толькі ў гэтым годзе ўзялася за плянавую радыёфікацыю. Па пляну на 1930 год вызначана правядзеньне 16.000 кропак ад сельскіх коопэрацыйных трансляцыйных вузлоў, 435 гучнагаворачых установак і 101 радыё-перасоўкі.

Выкананьне гэтага пляну ўскладае на сыстэму цэлы шэраг задач: правядзеньне поўнасьцю пляну радыёфікацыі і ў першую чаргу па соцыялістычнаму сэктару вёскі; мобілізацыі коопэрацыйнага актыву і шырокай савецкай грамадзкасьці, без чаго выканаць плян нельга.




Кніжны карнавал у Менску

Уся спажывецкая сыстэма павінна шчыльна ўвязаць усю працу па радыёфікацыі з таварыствам „сяброў радыё" на мясцох і ўжыць самыя актыўныя меры да організацыі ячэек ТСР у калгасах, саўгасах і вёсках.

Пры абсталяваньні вузлоў і правядзеньні трансляцыйных кропак трэба

зьвярнуць асаблівую ўвагу на ахоп бядняцка-серадняцкай масы ўжываючы, шырокае крэдытаваньне апошняй, як радыё-апаратурай, так і правядзеньнем кропак для слуханьня.

Асабліва востра на сёняшні дзень паўстае пытаньне аб кадрах. Спажывецкая коопэрацыя БССР бярэцца за гэтую працу сёлета без дастатковае колькасьці кадраў. Трэба выкарыстаць усіх спэцыялістых, якія ёсьць ў сыстэме, спэцыялістых паштова-тэлеграфных кантор і радыёпрыхільнікаў.

У бліжэйшы час вызначана адчыненьне разам з ТСР і радыёцэнтрам кароткатэрміновых курсаў, якія будуць рыхтаваць загадчыкаў трансляцыйнымі вузламі і радыёманцёраў на 80 чалавек.

Але гэта канчаткова не вырашае пытаньня аб кадрах. Трэба ўжыць шэраг мер па ўцягненьню ў гэту працу радыёпрыхільнікаў. Таксама важнаю задачаю пры правядзеньні радыёфікацыі зьяўляецца пастаноўка консультацыйна-даведачнае працы на мясцох.

Усё гэта яшчэ раз са ўсёю рашучасьцю ставіць перад спажывецкай коопэрацыяй задачу актыўнейшага ўдзелу ў правядзеньні культурнае рэволюцыі пры дапамозе плянавага ўнясеньня радыё ў быт і працу соцыялістычнага сэктару вёскі.

Выкарыстаць радыё, як найбольш вострую пролетарскую зброю ў клясавай барацьбе. Адпаведна гэтай задачы і мэтоды нашае працы павінны быць у корані перагледжаны.

Старыя погляды, якія разглядалі спажывецкую коопэрацыю, як організацыю, якая гандлюе радыёвырабамі, ў сённьяшніх абставінах, пры нашай ўдзельнай вазе плянавай радыёфікацыі вёскі, павінны быць адкінуты як неадпаведныя асноўным устаноўкам партыі ў перабудове сельскае гаспадаркі на новых соцыялістычных пачатках.

**Ад рэдакцыі.** Просьба да таварышоў выказацца па гэтаму пытаньню, закранутаму тав. Туркенічам.

## Прыцягнуць радыё на службу пролетарыяту— вялікая задача коопэрацыі

А. Смык

## Расьцем і мацнеем

(*Узьдзенскі раён, Меншчына*)

### Трохі гісторыі

У цяжкі год адбудоўчага пэрыоду, у год пасьля сканчэньня вайсковых завірух організаваўся Магільнянскі кооопэратыў „Серп і Молат".

Збожжам укладалі тады паі, бо грошы былі няўстойлівыя. Мільёнамі тады ўладаў кожны чалавек.

У невялічкай краме, дзе раней прадавалі „мелкие товары" гандляры, меў свае заснаваньне „Серп і Молат". Тут, у невялічкай каморцы, і цьвікі і жыта, і мазь, і соль, і газа, і сланечнік, мыла і мануфактура.

З няпрыхільнасьцю спачатку глядзелі на коопэратыў, з боязьню адносіліся да організацыі навучаныя ранейшымі распадамі (у часе вайсковых пераходаў), але час зьмяняецца.

### Гады ідуць

Кожны пражыты дзень усё больш і больш умацоўваў становішча коопэратыву. Паволі, паступова пачалі ўносіць сваю „лепту"—пай сяляне (іначай і нельга было назваць, як „лепту", калі гэта на цьвёрдыя грошы складала толькі 60 кап.).

З невялікімі грашовымі зваротамі, бязумоўна, нельга было разгарнуць працу як сьлед, паставіць яе на належную вышыню. Упартая, адданая праца як праўленьня коопэратыву, так і коопэрацыйнага актыву мелі свае вынікі. Ужо да канца 1926 гаспадарчага году ў таварыстве налічвалася 471 пайшчык з 575 руб. паявых узносаў. На 1/Х 1927 году ў таварыстве ёсьць дасягненьні: лік пайшчыкаў узрастае да 677, паявы капітал—да 2439 р., а зварот—да 77.585 руб. 1927-28 г. дае такія лічбы: пайшчыкаў—727 чалавек, паявы капітал—4215 руб., зварот—105.575 руб. А 1928-29 гаспадарчы год робіць значныя зьмены ў працы коопэратыву: лік пайшчыкаў узрастае да 849 (павялічэньне ў параўнаньні з 1926 г. у 2 разы), паявы капітал—9197 р. 92 к. (у 1926 годзе—575 р.), зварот—183.732 руб. 25 к. (у 1926 годзе—49.081 руб.).

Галоўнае, што дапамагло сабраць такі паявы капітал, дык гэта дыфэрэнцыяваны пай, а таксама лясныя распрацоўкі, якія адбываюцца ў раёне Магільна за ўсе апошнія гады.

За мінулы 1928-29 г. коопэратыў даў прыбытку 1707 р. 62 к.

На культпатрэбы за мінулы год выдадзена 631 р. 58 к., з іх на коопэрацыйныя куткі (у в. в. Касьцяшы і Магільна—20 р.). На літаратуру і газэты для насельніцтва другіх вёсак—67 р. 56 кап., на правядзеньне рэволюцыйных сьвят—35 р., на організацыю дзіцячае пляцоўкі пры спажывецкім таварыстве—293 р. 98 к., на радыё і на шэраг іншых патрэб—22 р. 68 кап.

Таварыствам дадзена дапамога свайму падшэфнаму Магільнянскаму піонэратраду—выпісана літаратура на 17 р. 20 к. і грашыма—36 руб.

### На шырокі прастор

Адна невялічкая крама. Праз некаторы час—дзьве, у якіх адбываецца і продаж тавараў і ссыпка збожжа. А лік пайшчыкаў расьце, а звароты з кожным месяцам павялічваюцца. Воляй-няволяй прышлося думаць, прышлося ставіць, вырашаць пытаньне аб

пашырэньні крамы, аб разгортваньні дзейнасьці ва ўсю шырыню.

І ў мінулым годзе коопэратыў адбудаваў вялікае, цёплае памяшканьне, пабудова якога каштавала 6.000 р., дзе знаходзіцца крама з трыма прыказчыкамі і бухгальтэрыя.

Цяпер становішча з крамамі значна палепшылася. Больш-менш вальней стала, хаця чарга ўсё існуе. Тлумачыцца яна больш няўвязкамі чыста ўнутранага парадку.

Як прыклад, скажам так: калі пакупцу патрэбны газа, запалкі, селядцы, матэрыя (паркаль), дык яму неабходна пастаяць у чатырох чаргах.



Віцебская саматужна-прамысловая панчошная арцель „Чырвоны Кастрычнік“, матальны цех. У арцелі 71 чал.

Чарга за газаю існуе толькі 2 дні ў тыдзень. Выклікаецца яна тым, што ў Койданаве (са складу) адпушчаюць газу два разы на тыдзень у пэўныя дні. Такім чынам, назаўтра, па прыбыцьці газы ў Магільна, каля крамы стаіць чарга. За гэтыя два дні газа амаль уся разьбіраецца, астатнія чатыры дні ні чаргі, ні газы няма.

### Іх скарга

Гандлёвы штат усяго спажывецкага таварыства складаецца з 7-мі адзінак, з выдаткамі на іх 242 руб. Працаўнікоў у бухгальтэрыі 2—з аплатай 90 руб.

— От, ведаеце,—казалі яны—пра працу шмат пішуць, а ніводзін не закіне слоўца аб павялічэньні аплаты, бо як сабе ні кажэце, а пры такой пэнсіі, як бухгальтэру—60 р., а яго памочніку—30 р. у м-ц мала.

— Каб вы адно паглядзелі, колькі тут працы. Часта канчаем яе а 12-ай а 1-ай гадзіне ўночы. Звароты павялічыліся, функцыі коопэратыву ў сэнсе загатовак таксама пашырыліся, працы прыбыло, а аплата ўсё-ж не завідная пры такой адказнасьці. У другіх установах куды болей плоцяць казаў мне бухгальтэр. От, я сам могбы атрымліваць 100 рублёў у месяц і працы ня болей, як 7-8 гадзін у дзень, а тут ня вымерваем ніколі 10-12 гадзін у суткі.

Ня лепш стаіць справа і з прыказчыкамі. Некаторыя з іх атрымліваюць па 20 рублёў у м-ц, сябры праўленьня (яны-ж загадчыкі крам) атрымліваюць 42 руб. у м-ц.

— Я усё-ж пра гэта чыркану,—абяцаю на разьвітаньні.

— Не забудзьцеся толькі. Можа што-небудзь у цэнтры і падумаюць, зьвернуць увагу.

**З плянамі спраўляемся**

— А як з хлебазагатоўкамі, са ільнозагатоўкамі?—цікаўлюся я.

— Нішто сабе. Нават добра можна сказаць. Хлебазагатоўчая кампанія як па лініі Белкоопсаюзу, так і па лініі дзяржаўнага заданьня прайшла ўвогуле на 121 проц.

З ільнозагатоўкамі таксама справа стаіць ня дрэнна.

Да аднаго адчыненага аддзяленьня коопэрацыі некалькі год таму назад у в. Касьцяшы, па пляну Белкоопсаюзу вызначана адчыніць яшчэ два. Адно з іх у калгасе Дзяржынскага (былая в. Прусінава) адчыняецца гэтымі днямі. Аб адчыненьні другога яшчэ ня вырашана пэўна месяца. З гэтым пытаньнем праўленьню неабходна пасьпяшыць—гэта пазбавіць ад лішняе цяганіны сялян ваколічных вёсак і ад чаргі ў коопэратыве.

Магільнянскі коопэратыў спаборнічае з Пясочанскім.

А. Зоркі

## Спажывецкая коопэрацыя перабудоўваецца

Індустрыялізацыя краіны і хуткі рост соцыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі праз колектывізацыю настойліва патрабуюць ад сыстэмы спажывецкай коопэрацыі рэорганізацыі яе і пераходу на новыя мэтоды працы, з мэтай поўнага і найлепшага абслугоўваньня колектывізаванага насельніцтва.

Існаваўшыя да гэтага часу асобныя спажыўтаварыствы, часамі даволі слабыя, са слабымі працаўнікамі, абслужыць усю колгасную сыстэму ня могуць.

Спажыўкоопэрацыя павінна стаць гнуткай, здольнай даць колгасам патрэбныя тавары і продукты. Замест масы дробных спажыўтаварыстваў, у раёне павінна быць адно буйнае спажыўтаварыства, зьвязанае са ўсімі раённымі організацыямі, якое мела-б раскіданую сетку па ўсіх калгасах акругі, каб колгасьнікам не даводзілася цягнуцца за газаю ці яшчэ за чымнебудзь за дзесяткі вёрст у мястэчка, у раённы цэнтр, дзе крам было больш, чым у вёсцы.

Улічваючы ўсё гэта, Дняпроўскі саюз спажывецкай коопэрацыі ўжо праводзіць перабудову сваіх шэрагаў у Аршанскай акрузе. З 37 дробных спажыўтаварыстваў, раскіданых па раёнах акругі, цяпер засталося толькі 20 у раённых цэнтрах і 6 яшчэ захавалася на буйных чыгуначных станцыях, як моцныя самастойныя спажыўтаварыствы, якія маюць вялікае значэньне для спажыўсыстэмы акругі. Маленькія спажыўтаварыствы зьліты, увайшлі ў склад раённых, а тыя ператварыліся ў шматкрамкі.

У новых буйных колгасах акругі адчыняецца да вясны 145 новых крам. Частка з іх ужо адчынена, а астатнія—у ступені організацыі. Такім чынам крамная сетка павялічваецца з 207 да 352 крам. З іх значная частка крам цяпер будзе у колгасах—на сяле, а не ў мястэчках. Акрамя таго, для абслугоўваньня колгасьнікаў у час сяўбы організуецца развозны гандаль.

Нямала ўвагі зварочваецца і на грамадзкае харчаваньне. У раёнах суцэльнай колектывізацыі адчыняецца 5 пекарань, новыя сталоўкі і чайныя у больш буйных колгасах. На іх організацыю даў дотацыю Белкоопсаюз.

Адначасова з гэтым для паляпшэньня абслугоўваньня спажыўцаколгасьніка павялічваецца і колькасьць працаўнікоў прылаўку. Усе яны будуць прапушчаны праз курсы падрыхтоўкі коопэрацыйных працаўнікоў, частка пры Дняпросаюзе, а 93

чалавекі пасылаюцца на курсы пры Белкоопсаюзе. Курсы працу ўжо распачалі.

У новых раённых спажыўтаварыствах-шматкрамках, з мэтай лепшай сувязі з масамі, склад праўленьняў павялічаны з 9 да 11 чал., і пры кожным спажыўтаварыстве ствараюцца групы беднаты. Гэта праца яшчэ толькі ў стадыі падрыхтоўкі, але паказаньні нізоўцы Дняпрасаюзам ужо дадзены.

Крамным комісіям дадзены правы контролюючага органу. У іх больш уцягваецца батрацка-бядняцкі актыў, і такім чынам грамадзкі контроль з боку пайніка-спажыўца ў значнай ступені пашыраны. Гэта забясьпечвае паляпшэньне працы.

Не забыта і культмасавая праца сярод пайнікаў. Дзеля таго, што акруга колектывізавана на 70 проц., уся ўстаноўка галоўным чынам зводзіцца да найлепшага абслугоўваньня колгасьнікаў. Загэтым у колгасах у дадатак да 27 коопэрацыйных куткоў якія існуюць, організуюцца яшчэ 90 куткоў. Частка з іх ужо ёсьць, а астатнія—ў стадыі організацыі Замест 7 сэзонных дзіцячых ясьляў, організуецца 10 стацыянарных і 22 сэзонных. Замест 8 курсаў кройкі, якія ёсьць пры буйных спажыўтаварыствах, організуецца яшчэ 10, і такім чынам да вясны спажыўсыстэма будзе мець 18 курсаў і рапаравальных майстэрняў. Колькасьць кіно-перасовак будзе павялічана да 21 і яшчэ дадасца дзьве стацыянаркі-кіно, 35 радыё-установак—гучнагаварыцеляў у колгасах, 63 куткі „матка і дзіця“, 14 культурных чайных і 5 бібліотэк-перасовак—вось што Дняпросаюз організуе, часткаю ўжо організаваў, устанавіў у колгасах і працягвае працу ў гэтэм напрамку.

На гэту працу Дняпросаюз мае культфонд у суме 49.222 руб. і спажыўсыстэма—54.892 руб., акрамя сродкаў самога насельніцтва.

На прасоўваньне кнігі ў гушчу колгасьнікаў таксама зьвернута вялікая ўвага. Пры ўсіх новых крамах, як і пры старых, у колгасах будуць кніжныя паліцы, організуецца штат кнігонош, мяркуецца організаваць кніжныя рынкі і вечары кнігі ў колгасах і саўгасах. На пакупку кніг колгасьнікам будзе давацца крэдыт.

Так спажыўсыстэма Аршанскае акругі перабудоўваецца да абслугоўваньня колгасаў. Галоўная ўвага зьвернута на тыя працы, якія патрэбна скончыць да сяўбы—організацыя ларкоў, пякарань, сталовак і ясьляў.

---

**Брыгадзір Асташонак**

# Першая баразна

(*Хацікоўскі сельсавет, Халопеніцкага раёну Меншчына*)

Колгасы „Чырвоны Кастрычнік“, і „Праўда“ 9-га красавіка сьвяткавалі дзень першае баразны.

Па пачыну батрака кольгасьніка Асіповіча былі на гэтым жа сходзе сабраны сродкі на добраахвотных пачатках для аплаты музыкаў. Да сьвята рыхтаваліся ўсе.

Ужо ў 6 гадз. раніцы 9-га красавіка колгасьнікі былі як адзін на нагах Брыгады па рольніцтву ўбралі сваіх коняй ў чырвоныя стужкі, падрыхтавалі ўсе сельска-гаспадарчыя прылады для ральлі.

Восем гадзін раніцы. Пад кіраўніцтвам брыгады па калектывізацыі і праўленьня колгасу ў баявым парадку выступілі на зборны пункт ў вёску Ігрышча.

Сьвяткаваньне прайшло пры вялікім ўдзеле бядняцка-серадняцкіх мас. На мітынгах ў Ігрышчы і Восаве выступаўшыя колгасьнікі запэўнілі комуністычную партыю і савецкую ўладу, што яны прыложаць ўсе свае сілы і веды для ўзмацненьня колгаснага будаўніцтва і будуць весьці працу па ўцягненьню ўсіх батракоў і бед-

някоў, якія яшчэ знаходзяцца пад уплывам кулацкай агітацыі.

У дзень сьвяткаваньня прымалі ўдзел ў ральлі 53 параконныя плугі. За некалькі гадзін было ўзарана 25 га яравога кліну ў колгасах „Бальшавік“ і „Праўда“.

11 красавіка колгас „Чырвоны Кастрычнік“ пачаў араць свой яров. клін.

15 красавіка ўсе колгасы Хацікоўскага сельсавету пачнуць араць пад ярыну.

Трэба адзначыць, што ў вёсцы Восаве ў час сьвяткаваньня чатыры былыя колгасьнікі-гаспадары, якія, пад уплывам кулацкай агітацыі выступілі з колгасу ў час сьвята запраглі сваіх коняй і выехалі араць разам з колгасьнікамі колгасны яравы клін. Яны заявілі: „Мы бачым, што перамога за колгасамі. Нам нечага слухаць кулацкую хлусьню, цяпер мы ўпэўніліся, што адзіны выхад паляпшэньня дабрабыту селяніна—гэта колгаснае жыцьцё“.

**Пайнік**

## Дрэнна чысьцілі

(*Узьдзенскі раён, Меншчына*)

У Магільнянскім спажывецкім т-ве працуе прыказчыкам Храноўскі Паўлюк, якім насельніцтва і пайшчыкі не здаволены. Нездавальненьне пайшчыкаў выяўляецца ў тым, што Храноўскі адпускае тавары сваім знаёмым бяз ніякай чаргі.

Калі яго знаёмы стаіць па-за чарговым і папросіць у Храноўскага, каб падаў яму цукру ці іншага тавару, дык ён бяз ніякага адказу бярэ тавар і падае яму праз галаву чарговага. Мала сказаць таго, што Храноўскі дае сваім знаёмым тавар праз галовы, а яшчэ адпускае тавар, як кажуць у гаворцы, і па „любві“.

Ёсьць такія зьявішчы, калі коопэратар Храноўскі выпіхае з чаргі якога-небудзь селяніна, а калі які-небудзь пайшчык з далёкай вёскі папросіць коопэратара, каб адпусьціў тавар і скажа: „што я ўжо цэлы дзень стаю“, то Храноўскі адкажа, што мала дня—трэба пастаяць два ці тры дні і тады атрымаеш тавар.

Пайшчыкі кажуць, што на дрэнны трыер чысьцілі Храноўскага; яму пры чыстцы савапарату далі суровую вымову з папярэджаньнем. Але ня гледзячы на суровую вымову с папярэджаньнем, Храчоўскі ўсё такі не баіцца нікога.

Насельніцтва просіць, каб каму гэта належыць зьвярнулі на гэта ўвагу.

**В. Якавіцкі**

## Кормяць сьвіней збожжам

Апчанскае спажывецкае таварыства (Грэскага раёну, Меншчына) паставіла сьвіней на адкорм у вёсцы Парэчча.

Сьвіньні знаходзяцца ў дрэнным становішчы: клеткі разламваюцца. Журавель Ганна больш траціць часу на рамонт клетак, чым на дагляд сьвіней. Продукты сьвіньням дастаўляюцца дрэнна. Сьвіньням даюць збожжа, і ў скрынках яно ляжыць зглумленым напалову.

Старшыня спажывецкага таварыства т. Бітко зусім мала цікавіцца адкормам сьвіней і мала заглядае, дзе і як ідзе адкорм.

Каб мець ад сьвіней карысьць, трэба даглядаць за іх адкормам

Чырвонаармеец

## За што яны лаюцца?

Я ў вёсцы Глівень (Барысаўскі раён). Заходжу ў краму спажывецкай коопэрацыі. Чарга каля прылаўку. Стаяць пайнікі, чакаюць. Прыказчык ў краме. Але чаму не адпускае тавару? Крычаць, лаюцца, сьмяюцца дзядзькі, а прыказчык размахвае рукамі і таксама лае загатоўшчыка. Спляліся, лаюцца, нібы гандляры на рынку. А завошта? За цэны. Што яны не падзялілі? Невядома. У присутных пайнікаў склалася думка, што іх ашукваюць. Адзін кажа: цана на гэты тавар павінна быць такая, а другі спрачаецца, лаецца і даводзіць, што яна павінна быць зусім другой. Коопэратары спрачаюцца, а пайнікі стаяць ў чарзе па некалькі гадзін.

Мая думка—спрачацца прыказчыку ў прысутнасьці некалькіх дзесяткаў сялян-пайшчыкаў у краме ня месца, ды яшчэ ў час працы. Трэба памірыць глівенскіх коопэратараў.

Вядзьмак

## Дэфіцытныя тавары для сваякоў

Прыказчыкам ў Радашкоўскай спажывецкай коопэрацыі (Заслаўскі раён, Меншчына) працуе Сталеўскі з вёскі Гуі. Не зварачаючы ўвагі на растрату, якую зрабіў Сталеўскі ў 1928—29 г. за 11 месяцаў ў суме 340 рублёў, праўленьне яго ізноў накіравала ў коопэрацыю.

Дэфіцытны тавар, які трэба даваць ў першую чаргу беднаце, Сталеўскі адпускае сваяком ды знаёмым. Бывалі выпадкі, што Сталеўскі на шэсьць душ сям'і адпушчае 200 грамаў цукру, а „любімчыкі“, якія ня маюць сям'і, атрымліваюць кілё цукру і больш.

Прыказчык Шаршунскай спажывецкай крамы Міхась Запека, сын заможніка, дэфіцытныя тавары прадае сваім сваяком ды знаёмым, ня гледзячы на тое, што яны не адносяцца да гэтага коопэратыву. Сам прыказчык хуліганіць і сыстэматычна п'янствуе.




Ня месца такому прыказчыку ў коопэрацыі!

**Коопкоры!**

**Больш пішэце, як працуе коопэрацыя на мясцох**

# Коопэрацыйная хроніка

**НОВЫ СТАРШЫНЯ БКС.**
**У сувязі з прызначэньнем тав. Балціна Наркомгандлем БССР старшынёю праўленьня БКС вызначаны т. Хаськін**

## МЦРК абслужыць экскурсантаў Усебеларускай с.-г. выстаўкі

З тае прычыны, што сталоўка, якая будуецца на тэрыторыі першай Усебеларускай сельска-гаспадарчай выстаўкі, ня здолее цалком абслужыць усіх экскурсантаў і абслугоўваючы пэрсанал выстаўкі (сярэдні лік экскурсантаў па пляну наведваньня вызначаецца ў 6.500 чалавек, абслугоўваючага пэрсоналу каля 500 чалавек), прэзыдыум ЦСПСБ даручыў МЦРК для абслугоўваньня экскурсантаў адчыніць у горадзе яшчэ тры сталоўкі. Гэтыя сталоўкі будуць адчынены: адна у садзе клюбу імя Карла Маркса, другая—ў садзе „Профінтэрн“ і трэцяя будзе прыстасавана з тых сталовак, якія ўжо вызначаны будаўніцтвам МЦРК.

На організацыю і абсталяваньне сталовак МЦРК адпушчана 80.000 рублёў. МЦРК даручана распачаць падрыхтоўку для гэтых сталовак патрэбнага ліку кухароў і афіціянтаў.

* * *

Белрабсэкцыя БКС вылучыла спэцыяльную комісію длэ дэталёвае прапрацоўкі пытаньня аб злучэньні МЦРК з транспортнай коопэрацыяй.

Для гэтае мэты вылучана таксама падкомісія пры Гомельскім ТПО.

* * *

Справаздачна - перавыбарчая кампанія ЦРК пачнецца 15 красавіка і працягнецца да 15-га чэрвеня. Беларбсэкцыя накіравала ўсім ЦРК дырэктыўны ліст аб правядзеньні кампаніі. Уся справаздачна-перавыбарчая кампанія ў гэтым годзе будзе праводзіцца на падставе агляду рабочай коопэрацыі.

* * *

Экономнарада пастанавіла перадаць усе млыны па пераапрацоўцы збожжа, якія знаходзяцца ў гарадох Саюзхлебу. Перадача млыноў Саюзхлебу мусіла скончыцца да 15-га красавіка

* * *

Белкоопсаюзу дадзена 20 месц. у Віцебскім коопэрацыйным тэхнікуме. Белсампрамсаюзу і белколгасцэнтру па 15 месц Прыём заяў у тэхнікум пачаўся.

* * *

МЦРК трэба неадкладна падрыхтаваць 360 працаўнікоў для коопэрацыйных крам (прыказчыкаў, касіраў і г. д.).

Гэтых працаўнікоў мяркуюць падрыхтаваць з беспрацоўных, якія знаходзяцца на вучоце біржы працы. Яна будзе праводзіцца ў дзьве зьмены, першая 200 чалавек і другая 160 чалавек. Ужо распачаты набор на гэтыя курсы.

* * *

Для падрыхтоўкі загадчыкаў магазынаў МЦРК пастанавіў правесьці аднамесячныя курсы рабочых-вылучэнцаў. Курсы разьлічаны на 50 чалавек.

* * *

Белкоопсаюз у хуткім часе атрымоўвае з Ленінграду 200 гучна-гаворачых радыёўстановак тыпу „БЧН“. Гэтыя ўстаноўкі будуць разьмеркаваны ў першую чаргу па раёнах суцэльнае колектывізацыі.

* * *

Для абслугоўваньня экскурсанта ў выстаўкі холодным пітвом, папяросамі і садовінай на выстаўцы будзе адчынена 30 ларкоў і 3 адчыненых кіёскі.




## За буйную соцыялістычную жывёлагадоўлю

*(Зборнік пастаноў і дырэктыў партыйных і ўрадавых органаў па пытаньнях жывёлагадоўлі)*

**Ст. 86, Экз. 5000.** *Ц. 25 к. Б. Д. В.*

Пасьля проблемы збожжа пытаньне жывёлагадоўлі зьяўляецца найбольш важнай проблемай. Забесьпячэньне насельніцтва і ў першую чаргу рабочага спажыўца мяснымі продуктамі—неадкладная задача ўсіх організацый і ўстаноў.

У апошні час па пытаньнях мясной проблемы і жывёлагадоўлі выдадзена шэраг пастаноў як партыйнымі, так і ўрадавымі органамі. Раскіданыя па розных часопісах і газатах, гэтыя пастановы не маглі быць выкарыстаны практычнымі работнікамі. Многія з іх нават і ня чыталі іх. Сабраныя ў адзін зборнік, яны (пастановы) даюць каштоўны кіраўнічы матар'ял, які дапамагае разабрацца як у задачах жывёлагадоўлі, так і ў спосабах іх вырашэньня. Зборнік складаецца з наступных дырэктыў і пастаноў: пастановы ЦК УсеКП(б), пастаноў СНК СССР (аб мерах да разьвіцьця жывёлагадоўлі і аб мерах з драпежніцкім забоем скаціны, пастаноў СНК БССР аб зоовэтмінімуме, аб змаганьні з эпізоотыямі і забесьпячэньні вэткадрамі, аб мерапрыемствах для разьвіцьця жывёлагадоўлі і пашырэньня кармавое базы БССР і другіх).

Дадаткам зьмешчана пастанова праўленьня Белколгасцэнтру аб задачах жывёлагадоўлі ў колгасах БССР.

У якасьці ўступу да зборніка зьмешчаны два артыкулы (передавая „Праўды“ і „Известий“), якія разглядаюць пастанову ЦК Усе КП(б) аб мясной проблеме. Чытачу гэтыя артыкулы дапамагаюць зразумець значэньне жывёлагадоўлі і разабрацца ў мерапрыемствах, якія належаць да ажыцьцяўленьня.

Кніжка патрэбна партыйнаму і савецкаму актыву на вёсцы, а таксама кіраўніком колгасаў і саўгасаў.

**Меркін Гірша**

---

**І. М. Серада. Пабудова сілосаў у колгасах і саўгасах. Ст. 52, экз. 7000.** *Ц. 20 к. Б. Д. В.*

Разьвіцьцё буйнай жывёлагадоўлі патрабуе шырокага выкарыстаньня замежнай практыкі, у прыватнасьці, практыкі Амэрыкі.

Па гэтым пытаньні пастанова СНК СССР аб разьвіцьці жывёлагадоўлі дае ясныя паказаньні. Кніжка т. Серады і ёсьць фактычна апісаньне дасягненьняў амэрыканскай практыкі (Штаты Іова, Дакота) у справе сілоснага будаўніцтва. Гэта ня ёсьць „інжынэрная“, тэхнічная кніга. Яна ставіць сваёй задачай азнаёміць шырокія колы насельніцтва з тыпамі сілосных пабудоў і намячае некаторыя конкрэтныя тыпы, якія могуць быць скарыстаны ў БССР.

Роля сілосаваньня вядома шырока. „Бяз сілосу няма прыбытковае малочнае гаспадаркі“.

Кармавое пытаньне—асноўная база для разьвіцьця буйнай жывёлагадоўлі. Вось чаму ўсе колгасы і саўгасы павінны зараз практычна прыступіць да пабудовы сілосаў, каб мець, калі не на ўвесь год, то хоць на зіму сьвежы, квашаны корм-сілос.

Аўтар разглядае, апрача агульных запатрабаваньняў да сілосаў, (непрапушчальнасьць сьцен, месца для пабудовы сілосаў, трываласьць будоўлі і г. д.) наступныя тыпы сілосных пабудоў: вежы (драўляныя, клепкавыя, дашчаныя), мураваныя вежы, ямы (часовыя і сталыя). У заключэньні даюцца заўвагі наконт машынізацыі і сілосаваньня.

Кніжка напісана старанна, мае многа дасканалых малюнкаў, якія памагаюць чытачу разабрацца як у розных тыпах сілосных пабудоў, так і спосабах будовы.

Канешне, кніжка не ахапляе і ня можа ахапіць усіх пытаньняў сілоснага будаўніцтва, ды гэта і ня ўваходзіла ў задачу аўтара. Як матар'ял для азнаямленьня, яна ўдалая і каштоўная. Кожны колгас, саўгас, адкормачны пункт павінны мець яе ў бібліотэцы.

**К. Лаўроў**

---

**Х. Бахцееў. Торп і яго скарыстаньне. стар. 75 экз. 10.000.** *Ц. 25 к. 3 сэрыі „Торпавая бібліотэка“ Б. Д. В.*

Намечаную БДВ і Цэнтральнай торпавай станцыяй да выданьня цэлую сэрыю кніжак па пытаньнях торпу і розных відаў яго скарыстаньня трэба толькі вітаць. Ужо першая кніжка гэтай сэрыі „Торп і яго скарыстаньне“ паказвае чытачу вялікае экономічнае значэньне торпу. Торпавыя паклады трэба разглядаць: „1) як запасы апалу, 2) як продукт для тэхнолёгічнае і хэмічнае пераапрацоўкі, 3) як агрономічную руду (торпаімшысты падсьціл, матар'ял для компосту, торп, як непасрэднае ўгнаеньне і 4) як зямельныя плошчы для ператварэньня іх у палявыя, лугавыя ды іншыя ўжыткі“.

Запасы торпу ў БССР вялікія, яны ў 12 разоў перавышаюць запасы драўніны. Аднак торп у апалавым балянсе рэспублікі займае 3,3%, а дровы—60%.

Т. Бахцееў вельмі ўдала расказаўшы пра хэмічныя і фізычныя ўласьцівасьці торпу, даводзіць далей, што магчыма шырока скарыстаць торп у народнай гаспадарцы. Апрача вядомага скарыстаньня торпу як апалу, разглядаюцца магчымасьці скарыстаньня торпу на прыгатаваньне паперы, тканін, віннага сьпірытусу, фарбаў, гарбоўнае матэрыі. На транспарце торп можа быць выкарыстан як апал для паравозаў, як апал для стацыянарных установак, як ізоляцыйны матар'ял пры пабудове вагонаў. У будаўнічай справе торп можа быць шырока скарыстаны для вырабу торпа-ізоляцыйных пліт. Скарыстаньне торпу ў сельскай гаспадарцы не абмежавана. Ён ідзе як падсьціл, угнаненьне, пакроўны матар'ял для продуктаў, што скора псуюцца, як корм для скаціны і інш. У мэдыцыне торп таксама можа быць выкарыстаны ў справе перавязак і гразялячэньня. Вогуле ў прыродзе бадай што няма іншае матэрыі, якую можна так шырока і рознастайна скарыстаць, як торп.

Кніга напісана жывой мовай і чытаецца з вялікай цікавасьцю. У канцы прыложаны вялікі сьпіс літаратуры пра торп. Прадмова т. Каркліна дае грунтоўныя ўстаноўкі наконт разгортваньня справы скарыстаньня торпу ў БССР.

**Н. Коцікаў**

---

**Д-р Ів. Цьвікевіч. Торп у мэдыцыне, вэтэрынарыі, санітарыі і хатняй гаспадарцы.** *Ст. 40, экз. 7000. Ц. 20 к. „Торпавая бібліотэка“. Б. Д. В.*

Комуністычная партыя і савецкая ўлада аддаюць шмат увагі пытаньню скарыстаньня торпу ў БССР. Прыведзеныя аўтарам у прадмове выняткі з пастаноў партыйных зьездаў, зьездаў саветаў і пастаноў ЦВК і СНК БССР паказваюць, што скарыстаньне торпу ўвесь час стаіць у цэнтры ўвагі дырэктыўных і ўрадавых устаноў. Неабходнасьць папулярызацыі справы скарыстаньня торпу зразумела само сабой. Да ліку папулярызацыі магчымасьці і неабходнасьці скарыстаньня торпу адносіцца і рэцэнзуемая кніжка т. Цьвікевіча. Газапаглынальная ўласьцівасьць махавога торпу, затрымліваньне процэсаў гніцьця і бушаваньня, здольнасьць паглынаць вадкасьць робяць торп дасканалым матар'ялам для перавязак. Ужо ў XI стагодзьдзі ў Англіі пачалі ўжываць торп для перавязак. Як лекавы сродак, торп ужываецца ў выглядзе торпавай лячэбнай гразі. У санітарыі торп можна з посьпехам скарыстаць у якасьці торпавага парашку для абеззаражваньня водкідаў, бруду, у мусарных ямах і клёзэтах. Шырокае скарыстаньне торпу магчыма ў вэтэрынарыі пры лячэньні гнойных і сьвежых ран у свойскай жывёлы. Але непараўнальна шырокія магчымасьці скарыстаньня торпу выяўляюцца для продуктоваў загатоўчых мэт і хатняй гаспадаркі. Загатоўкі гародніны, садавіны, продуктаў жывёлаводзтва, рыбы як для замежнага рынку, так і для ўнутранага немагчымы бяз шырокага скарыстаньня торпу. Торпавы парашок—консэрвуючы сродак, які захоўвае расьліну ад гніцьця і высыханьня. Той-жа парашок—дасканалы пакавальны матар'ял для фруктаў. Практыка за межамі і досьледы ў СССР паказалі, што зьяўляючыся дужа танным, торпа-махавы парашок захоўвае пры перавозках фрукты, забясьпечвае іх ад гніцьця, добра захоўвае пры перавозцы яйкі, мяса, рыбу і іншыя продукты.

Нашым організацыям спажывецкай коопэрацыі трэба зацікавіцца пытаньнем скарыстаньня торпу, практычна пачаць вырашаць яго, тым больш што торпу ў БССР дужа многа і ёсьць ён бадай каля кожнай вёскі.

Кніжку можна раіць для колгасаў, саўгасаў, школ і ўстаноў спажывецкай коопэрацыі.

**П. Цярэхін**

---

**С. І. Журык. Пытаньні бэконізацыі ў БССР.** *Стар. 40, экз. 3000. Цана 30 кап. Б. Д. В.*

Сьвіное пагалоўе БССР складае 20% ад сьвінога пагалоўя ўсяго СССР. Па шчыльнасьці сьвінога пагалоўя БССР стаіць на першым месцы пасьля Даніі і ПАЗШ. Продукцыя сьвінагадоўлі складае больш 1/3 ад каштоўнасьці ўсёй агульнай продукцыі жывёлагадоўлі ў БССР. Вось дадзеныя, якія вызначаюць значэньне і ролю сьвінагадоўлі ў сельскай гаспадарцы БССР. Асабліва гэта значэньне павялічваецца, калі разглядаць задачы разьвіцьця сьвінагадоўлі ў сувязі з неабходнасьцю вырашэньня мясной проблемы. „Сьвіньні ў вырашэньні мясной проблемы бліжэйшых двух гадоў адыграюць галоўную ролю, як скорасьпелы від скаціны, які можа на працягу 1-2 год лікам падвоіцца. Таму на пытаньне гадаваньня сьвіней, на пытаньне адкормачных опэрацый у аграмаджаным сэктары сельскае гаспадаркі сёлета павінна быць зьвернута выключная ўвага“ („Известия“ ад 12-II-30 г.).

Аўтар кнігі зьяўляецца дырэктарам Беларускае цэнтральнае дасьледчае сьвінаводнае станцыі. Двухгадовая праца станцыі паказвае, што ў БССР ёсьць усе ўмовы для разьвіцьця бэконнай сьвінагадоўлі, а, значыцца, і экспорту за межы. Экспорт бэконнай сьвініны ў 1928-29 г. за межы паказаў высокую каштоўнасьць беларускага бэкону.

Ставячы галоўным заданьнем у сьвінагадоўлі ператварэньне экстэнсыўнае сальнае сьвінагадоўлі ў інтэнсыўную мясную бэконную на базе буйных аграмаджаных гаспадарак, аўтар падрабязна разглядае пытаньне рэконструкцыі сьвінагадоўлі. У большасьці палажэньні аўтара падмацоўваюцца дадзенымі сьвінаводнай дасьледчай станцыі.

Чытач азнаёміцца з пытаньнем адкорму на бэкон пароды сьвіней, найбольш падыходзячых для бэконнага адкорму, тыпам сьвінарнікаў, неабходнымі ўмовамі для ўтрыманьня сьвіней, пытаньнямі будовы сьвіных фэрмаў і заводаў, заменай мясцовай паўдзікай сьвіньні палепшанымі (на грунце мэтызацыі мясцовых і ангельскіх) і г. д. Усё гэта дасьць пэўны грунт для практычнай работы на месцах па рэконструкцыі сьвінагадоўлі. Кніжка разьлічана на агрономаў, зоотэхнікаў, кіраўнікоў колгасаў і саўгасаў.

**О. Ганчароў**

---

**Ул. Паскрэбка. Рыхтуйцеся да выстаўкі.** *Выданьне БДВ, стар. 40, цана 10 кап., тыраж 7000 экз.*

Гэта невялічкая па свайму памеру кніжачка мае конкрэтны матар'ял. Тут у кароткіх рысах аўтар пастараўся даць у дапамогу рабочаму свае прапановы, як лепей падрыхтавацца да выстаўкі.

Як вядома, увосень гэтага году каля гораду Менску, куды будзе пракладзена трамвайная лінія, будзе адчынена першая ўсебеларуская выстаўка сельскае гаспадаркі і прамысловасьці. Яна азнаёміць усіх працоўных з асноўнымі дасягненьнямі краіны за 10 год, з дасягненьнямі ў сельскай гаспадарцы і прамысловасьці.

Ёсьць меркаваньні прапусьціць праз выстаўку да 50000 організованых экскурсантаў. Даецца цэлы шэраг ільгот для прыезду экскурсантам з провінцыяльных гарадоў, з колгасаў, бяднейшаму сялянству.

На тэрыторыі выстаўкі, якая займе 75 гектараў, будзе да 30 павільёнаў.

Кніжачка носіць характар пэўных прапаноў да падрыхтоўкі. Яе неабходна раіць кожнаму рабочаму клюбу, гуртку, чырвонаму кутку, рабочаму актывісту. Тым, хто хоча больш падрабязна азнаёміцца з выстаўкай, трэба раіць купіць кніжачку „Што такое першая ўсебеларуская выстаўка сельскае гаспадаркі і прамысловасьці“.

Цана гэтых кніжак невялікая і набыць іх здолее кожны.

**Я. С—к**

---

**А. Сокалаў. У пошуках лепшага шляху.** *Выданьне БДВ, стар. 48, цана 10 кап.*

Цэлы шэраг кніжак БДВ выдадзена зараз у „бібліотэцы колгасьніка“. Сярод іх нельга не зьвярнуць увагі на адну кніжачку-нарыс.

На беразе Нявы, у 40 кілёмэтрах ад Ленінграду, у былым маёнтку князя Серабракова знаходзіцца арцель „Яўрабзем“.

Ніхто раней ня верыў, што яўрэі могуць працаваць на зямлі. У большасьці панаваў погляд на яўрэяў, як на гандляроў. Гэта вынік політыкі царскага ўраду.

Цяжка спачатку было арцелі. Усё было зруйнавана, разбурана, а тут яшчэ ад арцелі сенажаць забралі, ды перадалі другой вёсцы.

Ня вытрымалі некаторыя—уцяклі, тады Мірман і Цімкоўскі пачалі набіраць новых сяброў, частка іх прыехала з Беларусі.

Прайшоўшы цэлы шэраг цяжкасьцяй, арцель перамагла погляды ваколічных сялян і стала сапраўды на цьвёрды шлях.

Два бліжэйшыя колгасы захацелі аб'яднацца з арцеляй у буйны колгас.

Ваколічныя сяляне, якія былі пры гэтым, сказалі:

— Рабеце, ад дабра ніхто не адмовіцца.

У нарысе са ўсёю яскравасьцю паказана жыцьцё нацыянальнага колгасу, паказан пералом быту, імкненьне да новага, далейшага шляху.

**А—р**

# Афіцыйны куток

## Пастанова праўленьня БКС аб арганізацыі экскурсыі колгасьнікаў

1. Надаючы вялікае значэньне колгасным экскурсіям у справе ўзмацненьня колгаснага будаўніцтва, лічыць неабходным максымальна забясьпечыць разгортваньне экскурсійнай работы ў летні час.

2. Выходзячы з гэтага, зацьвердзіць плян колгасных экскурсіі у летні час 30 г. па БССР у колькасьці 500 экскурсантаў па 8-мі вызначаных маршрутах, узгодненых з НКЗ БССР. Агульную каштоўнасьць гэтых экскурсій зацьвердзіць у суме 30.000 руб., разьмеркаваўшы гэтыя сродкі па акругах у адпаведнасьці з колькасьцю вызначаных экскурсантаў 7.000 руб. як дотацыю месацм асыгнаваць з сродкаў БКС.

3. Зацьвердзіць наступную разьвёрстку па акругах: Менску—80, Бабруйску—60, Мозыру—50, Полацку—50, Воршы,—55, Віцебску 65, Магілеву—75, Гомелю—56.

4. Пры вылучэньні экскурсійных груп трэба вызначыць у першую чаргу коопактыў з батрацка-бядняцкай часткі, а так сама жанчын актывістак, пры чым 75 проц. месц даць абагуленаму сэктару і 25 проц. індывідуальнаму.

5. Культаддзелу забясьпечыць адпаведнымі мерапрыемствамі пасьпяховае правядзеньне экскурсіі.

**Праўленьне БКС.**

*Рэдакцыйная колегія—Рэдактар* **Гінзбург**
*Выдавец:*—**Белкоопсаюз і Белсампрамсаюз**



## Да ўсіх коопэрацыйных організацый спажывецкае і саматужна-прамысловае коопэрацыі.

### Дарагія таварышы!

З 1-га красавіка часопіс „Коопэрацыя БССР“ зьяўляецца выключна органам Белкоопсаюзу і Белсампрамсоюзу.

Часопіс рэорганізавана і разьлічана на шырокага нізавога чытача. Яна будзе шмат увагі аддаваць працы нізавое спажывецкае сыстэмы і саматужна-прамысловай коопэрацыі.

Часопіс будзе друкаваць галоўныя дырэктывы вышэйшых коопэрацыйных організацый, якія тычацца працы нізавое сыстэмы.

Часопіс уводзіць сталы консультацыйны аддзел, будзе даваць парады і адказы на ўсе запытаньні нізавых коопэрацыйных організацый.

Часопіс „Коопэрацыя БССР“ у гэтым годзе будзе выходзіць ілюстраванай і ўводзіць літаратурна-мастацкі куток з жыцьця коопэрацыі.

У выніку рэорганізацыі часопіс „Коопэрацыя БССР“ будзе рэгулярна выходзіць 2 разы ў месяц і сваячасова дасылацца падпісчыкам.

Кожная коопэрацыйная організацыя, кожная крама і аддзяленьне, кожны коопэрацыйны працаўнік павінны неадкладна падпісацца на сваю часопіс „Каапэрацыя БССР“.

### Падпісная плата на 1930 год.

| | |
|---|---|
| На 1 месяц ...... | — р. 50 коп. |
| На 3 месяцы ...... | 1 „ 40 „ |
| На 6 месяцаў ..... | 2 „ 80 „ |
| На 1 год ....... | 5 „ 60 „ |

Падпіску накіроўвайце па адрэсу г. Менск, Савецкая 43, Белкоопсаюз, рэдакцыі часопісі „Каапэрацыя БССР“.

Па атрыманьні першага нумару неадкладна падпішыся на цэлы год.

*Рэдакцыйная колегія.*